PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 8 (2128) Год XLII Беласток 23 лютага 1997 г. Цана 1 зл.



*„Сустрачанкі" з Сустрэч.*

## Абражаны Шарль Перо

Мікола Ваўранюк

**— Добры вечар, шчыра і сардэчна хочам прывітаць сабраную, вельмі паважаную публіку! Ад імя галоўнага праўлення нарваўскіх сустрэч у асобе старшыні магістр Ганны Кандрацюк і галоўнага сакратара, заслужанага дзеяча культуры Дарафея Фіёніка запрашаем на наш канцэрт пад загалоўкам „Песня астаецца ў сэрцы". Жадаем публіцы прыемнага *адбёру*, а артыстам многа *паводзін*.**

Восьмыя сустрэчы „Зоркі", ад 3 да 8 лютага ў Нарве, былі прысвечаны тэатральнаму мастацтву і закончыліся спектаклем „Карнавал '97". Атрымаўся фарс, у якім маладыя акторы — а з імі воляйняволяй і гледачы — абсмяялі ўсё і ўсіх: вядомыя з дзяцінства казкі, новыя з'явы масавай культуры (музычныя відэакліпы, паранойя са спонсарамі), нашы дутыя мерапрыемствы (песенныя і дэкламатарскія конкурсы), славутых дзеячаў, сваіх апекуноў, сяброў і саміх сябе.

Вечарына пачалася вершам Яна Чыквіна „Апоўначы не спяць..." Затым пайшла пантаміма на падставе „Легенды пра Нарву" і „Птушыны сойм". І ўжо сціплая святліца гміннага гатэля „Пад акацыяй" пераўтварылася ў сапраўдны тэатр. Некалькі разоў тэхнічныя працаўнікі з надпісамі „Pronar" на спінах мянялі дэкарацыі сцэны і святло — можна тут выкарыстаць тканыя ходнікі, кілімы, на больших і меншых аркушах паперы можна намаляваць любы фон, а настольныя і насценныя лямпы з дапамогай каляровай паперы пераўтвараюцца ў пражэктары. Артысты заварожвалі ўласнаручна выкананымі ўборамі, асабліва — птушынымі маскамі. Падыгрываў ім камерны аркестр: Алег Кабзар — гітара (месцамі — флейта) і Дарафей Фіёнік — гармонік.

Далей пацярпеў бедны Шарль Перо. Ягоная Чырвоная Шапачка з'ела ў лесе прызначаны бабцы пірог, выжлукціла бутэльку віна, закурыла, зараўла „Стэфку", заездзіла ваўка, прагнала лесніка і вытрасла з бабулі пенсію на пахмелле. Брава, Жанэта Роля!

Канцэрт „Песня астаецца ў сэрцы" пачаўся з пажаданняў, віншаванняў і ўзнагароджвання медалямі велічынёй у добрую патэльню навуковага супрацоўніка „Сустрэч" д-р Лены Глагоўскай і паэта, дэкламатара, грамадскага дзеяча, шматгадовага тэатральнага натужніка Янкі Морданя. Затым „Калінкі з Калінова", „Малінкі з Маліннік", „Нарвенкі з Нарвы", „Мумінкі з Ласінкі" і „Рапэжы з Трывэжы" (за дапушчаныя памылкі ў назвах калектываў *зверху* выбачаюся) праспявалі вядомыя гіты: сонечнае *reggae* — „Бабка Еўка дзед Тамаш", сумны беларускі блюз „Дармо Ясю ходзіш", рап — „Чараўніца" і найбольшае шаленства сёлетняга карнавалу — *макарэна* „Жыта, маці". Песні перапляталіся складзенымі падчас „Сустрэч" вершамі, якіх не пасаромеўся б не адзін знакаміты *белавежац*. Цудоўна дэкламавалі іх боская Уля Тарасэвіч з Гарадка і Міхал Базылюк з Бельска. Не толькі з журналісцкага абавязку, але з чыстай прыемнасцю адзначаю майстэрскі канферанс Эвеліны Кучэўскай з Нарвы і Ані Фіёнік (не менш бліскуча выканала яна дзесятак іншых функцый).

Фінал канцэрта быў цудоўны! Патэтычна-ўзвышаны і незабыўны. Публіка ўстала, на сцэну выйшлі ўсе выканаўцы і ўзяліся праваю рукою за сэрца. Перад артыстамі, бокам да гледачоў, стаў гар-

[*працяг* ☞ **8**]



*Сучасная версія „Чырвонай Шапачкі".*

## Менш злачынстваў — жорсткасці больш

Аляксандр Максімюк

**У традыцыйнай грамадскай свядомасці існуе погляд, быццам ніколі не было такога непарадку і бандытызму, як цяпер, пры гэтай сістэме. Можна тут мець ўражанне, што дэмакратыя дае злачынцу права на бяспраўе. Калі ў імя правоў чалавека ды захавання ім прыватнасці адбіраецца паліцыі, напрыклад, магчымасць падслухоўваць тэлефонныя размовы дзеля ўкамплектавання доказаў — выклікае гэта сярод функцыянераў расчараванне і прэтэнзію да дэмакратычнай сістэмы, якая, нібыта, *перш за ўсё дбае пра правы злачынцы*...**

7 лютага г.г. Ваяводская камендатура паліцыі ў Беластоку наладзіла прэс-канферэнцыю, тэмай якой была ацэнка бяспекі і публічнага парадку на абшары Беластоцкага ваяводства ў 1996 годзе. З боку камендатуры ўдзельнічалі ў ёй: намеснік ваяводскага каменданта **Уладыслаў Матышчык**, прэсавы прадстаўнік камендатуры **Кшыштоф Каспшак** ды кіраўнікі аддзяленняў — дарожнага руху, крымінальнага і кадраў.

Паводле статыстычных даных камендатуры (складаюць яны таўставатую кніжку) у мінулым годзе паліцыя адзначыла ў ваяводстве 17 715 злачынстваў, што з'яўляецца лікам на 1 539 меншым у параўнанні з 1995 годам. Зніжэнне злачыннасці адзначылася ў такіх галінах, як: забойствы, пашкоджанні цела і здароўя, бойкі, гвалты, разбоі і грабяжы. Узрос аднак лік рабункаў прыватных кватэр і крадзяжоў аўтамашын. Працэнт выяўленых паліцыяй віноўнікаў у паасобных катэгорыях злачыннасці неаднолькавы — агульны паказчык выяўленасці злачынцаў утрымліваецца на ўзроўні 1995 года (57,3%).

— Найгоршае становішча, — сказаў намеснік ваяводскага каменданта, — у вылаўліванні рабаўнікоў прыватных кватэр. Мы выяўляем кожны пяты рабунак і разумеем, што грамадства спадзяецца на большую эфектыўнасць паліцыі, пракуратуры і судоў. Таму самым важным пытаннем для нас — павялічыць гэтую эфектыўнасць, а перад усім абмежаваць колькасць рабункаў. Цяперашнім часам ходзіць на свабодзе большасць вядомых нам злодзеяў. Варта, каб сродкі масавай інфармацыі зацікавіліся, чаму яно так.

Грамадская думка за высокую злачыннасць абвінавачвае перад усім паліцыю. Паводле Ваяводскай камендатуры, грамадства не заўсёды дакладна разумее ролю паліцыі.

— Наша задача ў вылаўліванні злачынцаў ды пастаўцы іх у арышт, — сказаў намеснік каменданта. — І мы гэта робім, але не маем ніякага ўплыву на тое, што з імі адбываецца далей. Тут, звычайна, канчаецца наша кампетэнцыя і магчымасці дзеяння.

У мінулым годзе беластоцкая паліцыя мела некалькі бясспрэчных поспехаў,

[*працяг* ☞ **8**]

# Мы прачыталі

*Dyziu, Ty w ogóle nie zdajesz sobie sprawy, co to znaczy być Białorusinem. A znaczy to zostać znienawidzonym również przez swoich, którym mój patriotyzm narodowy jest tak potrzebny, jak wrzód na dupie. Ten chłopo-pańszczyźniany naród marzy wręcz o tym, by wreszcie przestać być sobą. Dyziu, czuję się umordowany tą Białorusią, jak i naszymi polskimi Białorusinami, którzy tu czynią wszystko by zostać Polakami, tam zaś Ruskimi. Zaczynam być wrogiem publicznym nr 1 dla wielu. Więc niech ich szlag trafi — idę na ryby i zaczynam żyć tylko dla siebie,* — піша Сакрат Яновіч рэдактару Дыянізію Сідорскаму.

*Nowe Kontrasty, nr 1*

Прыхільнікаў творчасці С. Яновіча адсылаем тады ў „Przegląd Wędkarski”.

* * *

*Давайце спытаем каго-небудзь, чым адрозніваецца „наёмнік" ад „добраахвотніка"? Чаму беларус, які ваяваў за расійскую армію ў Чачні, лічыцца ледзь не героем, а яго зямляк, які загінуў за тых жа праваслаўных, але сербаў у Босніі, лічыцца наёмнікам. На жаль, нашы законы пра гэта маўчаць.*

*Звязда, н-р 14*

* * *

*Канстытуцыйны суд працуе на будучыню Беларусі. Увогуле Канстытуцыйны суд павінен зыходзіць з павагі рашэнняў кіраўніка дзяржавы,* — сказаў новы старшыня Вярхоўнага Суда Рыгор Васілевіч.

*Звязда, н-р 15*

* * *

*Ёсць дзве Беларусі — першая з іх афармлена юрыдычна як дзяржава, але не жыве сапраўдным нацыянальным жыццём. Такому жыццю ў ёй свядома не даюць нарадзіцца. Другая Беларусь існуе як ідэя, не ўвасобленая ў палітыцы; гэта краіна ўяўлення, краіна-мара. У першай вызнаюць праваслаўны атэізм і будуюць рынкавы сацыялізм, у другой існаванне такіх парадаксальна-сімбіёзных мутантаватых паняткаў наўрад ці магчымае. Насельніцтву першай дзіўна, незразумела, крыўдна і прыкра, што Беларусь — краіна. Грамадзяне другой прагнуць увасобіць сваю ідэю ў рэальнасць, чаго ім усё яшчэ ў які ўжо раз — не ўдаецца.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 3*

* * *

*Komarowkę — miński bazar odwiedził sam prezydent Łukaszenko. — Nie będzie pobłażania dla spekulantów — oświadczył. Prezydent po raz pierwszy odwiedził bazar jesienią ubiegłego roku. Na bazarze go po prostu wygwizdano. Gwizdali ludzie z ulicy, którzy przyszli w tym dniu po zakupy, ale Łukaszenko wychodząc wycedził w stronę sprzedawców: „Jeszcze tego pożałujecie”. W styczniu Łukaszenko podpisał dekret o nacjonalizacji bazaru. Obecnie mają tam sprzedawać swoje towary tylko kołchoźnicy i państwowe sklepy. Prezydent z pasją przeciwstawił lud pracujący sowchozów drobnym przedsiębiorcom. Tych ostatnich nazywa publicznie „żulikami”, „spekulantami”, „zawszonymi pchłami”.*

*Gazeta Wyborcza, nr 24*

Магло б быць горш.

* * *

*Nigdy nie było tak, żeby milicja w Rosji obroniła kogoś przed mafią. Ale w porównaniu z milicją białoruską, rosyjscy stróże prawa to anioły. Ich miesięczna pensja wynosi około 200 dolarów, więc nie są tak zdesperowani jak Białorusini. Ci teoretycznie zarabiają 40 dolarów miesięcznie. Z białoruską milicją można tylko na dwa sposoby: albo się kajasz, uszy po sobie i robisz co każą, płacisz, oddajesz jedzenie. Albo ostro stawiasz się: — Gdzie twój naczelnik — krzyczysz.*

*Gazeta — Magazyn, nr 5*

* * *

*Буду шчыры: беларуска-расійскія адносіны не ўсімі ўспрымаюцца адназначна. Сям-там гэта ўспрынялі як спробу адраджэння савецкай імперыі і нават пачалі прымаць прэвентыўныя меры. У сувязі з гэтым хачу сказаць, што адраджэнне Савецкага Саюза аб'ектыўна немагчыма,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, прэзідэнт Беларусі.

*Голас Радзімы, н-р 5*

А народ, галасуючы на спадара Аляксандра Рыгоравіча, верыў, што верне ён савецкі рай, так як і абяцаў. Такі канфуз!

* * *

*O patologicznej sytuacji w Rosji świadczy liczba urzędników. W ZSRR, który liczył ponad 270 mln mieszkańców, było ich 18 mln, dzisiaj Rosja ma tylko ponad 140 mln obywateli i 22 mln urzędników. Nienormalna jest też sytuacja w armii, w której jeden generał przypada na trzech żołnierzy. Gospodarka jest przeżarta korupcją i przestępczością. W ciągu trzech ostatnich lat za granicę wypłynęło ok. 400 miliardów dolarów,* — сказаў Аляксандр Лебедзь.

*Polityka, nr 5*

* * *

*Podpici bandziorzy demolują podwarszawską knajpę, dają się zamknąć w areszcie, do którego idą jak baranki, ale zaraz dowiadujemy się, że są oni tak ciężko chorzy, iż muszą po paru godzinach wyjść na wolność, bo służba więzienna nie może zapewnić im wystarczająco czułej i troskliwej opieki. Przy okazji dziennikarze wywlekają na światło dzienne sprawę innego przyjemniaczka, trzykrotnego mordercy, skazanego na 25 lat więzienia, który od paru miesięcy łazi wolny, gdyż ma biedaczysko kłopoty ze zdrowiem. Zapewne długo będzie uprawiał ten proceder, może nawet 25 lat, bowiem służbie więziennej, zgodnie z prawem wystarczy zwolnienie od lekarza cywilnego.*

*Kurier Poranny, nr 31*

# З мінулага тыдня

**План пашырэння НАТО на ўсход** абмяркоўваўся ў Маскве на сустрэчы выдатных расейскіх палітолагаў з прадстаўнікамі улад Федэрацыі, фінансавых і прамысловых колаў Расеі ды паслоў некалькіх дзяржаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы. Большасць удзельнікаў сустрэчы лічыць, што Расея павінна свае высілкі накіроўваць не на процідзеянне планам пашырэння НАТО і Еўрапейскага Саюза, паколькі гэты працэс непазбежны, а на пошук адказу на дзеянні Захаду, якія прымаюцца ім у дадзенай справе. Гэта мела б мінімалізаваць шкоды, якія экспансія НАТО і ЕС магла б нанесці расейскім нацыянальным інтарэсам. Расейскія палітолагі аднадушна сцвярджаюць, што пашырэнне НАТО — памылка Захаду і адначасна вынік памылковых дзеянняў Расеі. Некаторыя з іх баяцца, што экспансія НАТО і ЕС можа давесці да парвання гаспадарчых сувязей паміж Расеяй і краінамі цэнтарльнай і ўсходняй Еўропы.

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** пабываў у Гродне, дзе сустрэўся з епіскапам Навагрудскім і Лідскім **Гурыем** ды перадаў яму ахвяраванні прыходаў Беластоцка-Гданьскай епархіі на адбудову кафедральнага сабора ў Лідзе і на дапамогу прыходу ў Чарноўцах каля Баранавіч.

**Стварэнне еўрарэгіёна „Нёман”** было тэмай сустрэчы шэфаў адміністрацыі прыгранічных тэрыторый Польшчы, Беларусі, Літвы і Калінінградскай вобласці Расейскай Федэрацыі. У выніку была падпісана дэкларацыя аб наладжанні ўзаемнага партнёрскага трансгранічнага супрацоўніцтва.

**Адукацыйны цэнтр** Фонду развіцця лакальнай дэмакратыі ў Беластоку падвёў вынікі курсаў для працаўнікоў гмін, а найбольш актыўным курсантам прысвоіў дыпломы і ўзнагароды. Вылучэнні атрымалі дзесяць гмін: Бельск-Падляшскі, Чаромха, Дабжынева-Касцельнае, Тыкоцін, Кляшчэлі, Дубічы-Царкоўныя, Саколка, Венгажэва, Гайнаўка і Саколы. Прадстаўнікі гэтых гмін атрымалі 10-працэнтную скідку на чарговыя паслугі цэнтра.

**1 502 пажары** ўспыхнулі ў мінулым годзе ў Беластоцкім ваяводстве (на 38% больш чым у 1995 г.). У агні загінула 53 дарослых і трое дзяцей. Пажарнікам удалося выратаваць маёмасць вартасцю больш за 121 млн. зл. Ваяводскі камендант Дзяржаўных пажарных часцей капітан **Кшыштоф Вайтэцкі** найважнейшымі справамі ў 1996 годзе палічыў стварэнне выратавальна-тушыльнай часці ў Чаромсе і аснашчэнне пажарных каманд сучаснай тэхнікай (напрыклад, алейным сепаратарам, неабходным пры хімічна-экалагічных выратавальных акцыях).

**Амаль 70 тысяч** грамадзян Польшчы нелегальна прабывае ў Злучаных Штатах Амерыкі, — паведаміла амерыканская іміграцыйная служба INS. Складаюць яны 1,4% іміграптаў, якія не маюць права на пастаяннае месцажыхарства. Агулам у ЗША пражывае 5 млн. „нелегалаў”, якія нелегальна перасяклі мяжу або самавольна прадоўжылі часовую пабыўку. Складаюць яны 2% насельніцтва ЗША.

**Брытанская паліцыя** ўзбудзіла следства супраць 76-гадовага **Антонія Савонюка** — паляка, які пасяліўся ў Вялікабрытаніі. Падазраецца ён у саўдзельніцтве ў злачынствах, учыненых на беларускіх яўрэях падчас II сусветнай вайны. Савонюк прызнаўся, што супрацоўнічаў з гітлераўцамі падчас акупацыі Беларусі, але аспрэчыў абвінавачанні ў забойстве яўрэяў. Пад канец вайны Савонюк уцёк у Нямеччыну, адкуль яму ўдалося пранікнуць у лагер польскіх салдат, дзякуючы чаму мог пасля вайны пасяліцца ў Вялікабратаніі.

# Весткі з Беларусі

**Рыхтуецца сустрэча прэзідэнтаў**

Міністэрства замежных спраў рэспублікі вядзе актыўную падрыхтоўку да сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі, Польшчы і Украіны. Ёй будуць папярэднічаць перамовы на ўзроўні міністраў замежных спраў гэтых краін. Надзеі, што ўскладаюцца на сустрэчу прэзідэнтаў, звязаны з павышэннем патэнцыялу ў рабоце мытняў, стварэннем свабодных эканамічных зон і ўмацаваннем трохбаковага палітычнага дыялога.

**Адамовіч на волі**

Паэт Славамір Адамовіч, аўтар верша „Убей президента”, пасля дзесяцімесячнага прабывання ў следчым ізалятары выйшаў на волю. Вызваленне мае ўмоўны характар — Адамовіч абавязаўся не выязджаць з Беларусі да часу заявршэння судовага працэсу.

**Далоў БНФ!**

Гарадская арганізацыя Камуністычнай партыі Беларусі, якая нядаўна адрадзілася ў Бабруйску, выступіла з рэзкім асуджэннем Беларускага народнага фронту. На адным са сваіх першых сходаў 62 члены КПБ прынялі зварот да прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі з просьбай забараніць дзейнасць БНФ як праваэкстрэмісцкай нацыяналістычнай арганізацыі. Бабруйскія камуністы лічаць, што БНФ выступае супраць канстытуцыйнага дзяржаўнага ладу.

**Адмоўнае сальда**

Нягледзячы на рост аб'ёмаў знешняга гандлю ў мінулым годзе амаль на 20%, Беларусь так і не змагла зменшыць адмоўнае сальда. Яно дасягнула небывалай лічбы — 1 654 700 000 долараў. За год, пры павялічэнні паставак за мяжу айчыннай прадукцыі амаль на 12%, імпарт узрос на 24,4%. На думку спецыялістаў, такое становішча склалася з-за дэфіцыту гандлёвага балансу не толькі з краінамі СНД, але і далёкага замежжа. Дарэчы, папулярнасцю сярод спажыўцоў карысталіся толькі беларускія шыны для грузавых і легкавых аўтамабіляў, металаапрацоўчыя станкі, чорныя металы, халадзільнікі і маразільнікі, гарэлка і лікёрагарэлачныя вырабы. У той жа час менш пачалі купляць у Беларусі калійных угнаенняў, хімічных валокнаў, трактароў, бытавых гадзіннікаў, грузавых аўтамабіляў.

**(Бела)рускія інструкцыі**

Па даручэнні Савета Міністраў Камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Беларусі рыхтуе пастанову аб зацвярджэнні патрабаванняў да інфармацыі на прадуктах харчавання і іншых тавараў народнага спажывання, якія ўвозяцца і рэалізуюцца на тэрыторыі Беларусі. У сувязі з павелічэннем выпадкаў продажу недабраякасных тавараў Камітэт рэкамендуе забараніць увоз і рэалізацыю тавараў, якія не маюць інструкцыі на беларускай ці рускай мовах.

**Базарная дэманстрацыя**

Каля трох тысяч членаў БНФ і гандляроў пратэставала ў Менску супраць нацыяналізацыі самага вялікага базару на Камароўцы і пазбаўлення працы некалькіх тысяч чалавек. Згодна з воляй прэзідэнта Лукашэнкі, новая дырэкцыя базару вырашыла, што з 1 лютага прадаваць на Камароўцы могуць толькі непасрэдныя вытворцы — прадстаўнікі калгасаў і саўгасаў, і забараніла гандляваць гандлёвым пасрэднікам. У выніку такой рэарганізацыі гандлёвыя рады стаяць пустыя, бо няма адпаведнай колькасці прадаўцоў.

**Аднаўленне камітэтаў**

На Брэстчыне аднаўляюцца дамавыя, сельскія і вулічныя камітэты. На агульных сходах будуць выбраны з сялян аўтарытэтныя кіраўнікі населеных пунктаў. Органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання разглядаюцца як важнейшыя звенні ў арганізацыі работы сярод насельніцтва па месцы жыхарства, па падтрымцы высокага правапарадку і санітарнай культуры населеных пунктаў, вуліц, двароў, пад'ездаў. Прызнана мэтазгодным прадоўжыць практыку ўшаноўвання людзей за працоўныя поспехі па месцы жыхарства і на вытворчасці, узнавіць галерэі працоўнай славы.

**Стагановіч у Полацку**

У Полацку ў Гістарычна-культурным запаведніку адкрылася выстава амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Тамары Стагановіч. Экспануюцца на ёй лепшыя яе творы, падрыхтаваныя спецыяльна для паказу беларускаму гледачу.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- З Янкам Жамойціным пра гісторыю і літаратуру размаўляе Сакрат Яновіч.
- Пра сучасную музыку, спевы і танцы — піша Уладзімір Сідарук.
- Невядомыя факты з жыцця Веры Маслоўскай.

# Хлеб наш надзённы

**Хлеб у нашай культуры мае многа значэнняў. Ён неабходны для нашага цяляснага жыцця, але ў народнай традыцыі з'яўляецца нечым святым. Боханы памячаліся знакам крыжа. Нельга было выкідаць рэштак хлеба, а ўпушчаны кавалак трэба было падняць з зямлі і пацалаваць. У горадзе хлеба — Віфлееме — нарадзіўся Ісус Хрыстос, а слова хлеб выступае ў Свяшчэнным Пісанні 264 разы. Сёння часта забываем, што хлебам трэба дзяліцца з бліжнімі. Рабілі гэта кожны дзень першыя хрысціяне і было гэта сімвалам гасціннасці і дружбы.**

Калісь вясковыя гаспадыні мясілі цеста на хлеб рукамі ў драўляных капаньках (начоўках) — прадаўгаватай пасудзіне, выкананай вясковым майстрам найчасцей з ліпавага пня. Раней людзі не ведалі дражджэй, таму для браджэння цеста прымянялі парасны цвет хмелю. Хлеб пяклі на лісцях хрэну, аеру або капусты. Каб хлеб так хутка не чарсцвеў, да цеста дадавалі вараную або цёртую бульбу.

Муку спачатку атрымлівалі ў выніку размолу зерняў у жорнах, пасля з'явіліся ветракі і водныя млыны. Камяні для жорнаў мог зрабіць толькі вопытны „каменшчык". У Арлянскай гміне такім майстрам быў Іван Шэршань з Шэрняў. Апрацоўваў ён камяні для жорнаў, на фундаменты, крыжы па ўсім наваколлі, падаваўся нават у Мілейчычы ці Жэрчычы. Камяні для жорнаў трэба было вастрыць, накоўваючы жалабкі і канаўкі. Пасля вастрэння спачатку малолі зерне на восыпку, а пасля на муку. Размол у жорнах займаў многа часу, а і мука была няякасная.

Разам са з'яўленнем першых млыноў змянілася якасць мукі і хлеб стаў смачнейшы. Паявіліся дрожджы і бляхі — металічныя формы для цеста. Гаспадыня вечарам рыхтавала „падрошчынку", а раніцай рашчыняла цеста, дадаючы да жытняй мукі дрожджы, ваду, кіслае малако і трохі солі. Цеста расло чатыры гадзіны. Хлебная печ апальвалася сасновымі або дубовымі дровамі. Гатовае цеста гаспадыня накладала ў бляхі і аздабляла яго арнаментам, які рабіла пры дапамозе відэльца або лыжкі. Адзін бохан меў адціснуты знак крыжа. Пяклі хлеб гадзіну. Калі гаспадыня вымала боханы з печы, пах разыходзіўся па ўсёй хаце.

Цяпер прадукцыя хлеба адбываецца ў пякарнях — у малых рамесніцкіх майстэрнях і ў буйных хлебазаводах. У колішняй Орлі было некалькі яўрэйскіх пякарняў, якія згарэлі ў вялікім пажары мястэчка ў 1938 годзе. Ацалела толькі мураваная пякарня Іосіфа Ізбуцкага, якая пасля вайны стала ўласнасцю мясцовага ГСу і якая працавала да канца 70-х гадоў. Цяпер жыхароў Орлі і наваколля забяспечвае хлебам новая пякарня ГСу.

Расказвае майстар хлебапякарнай справы **Уладзімір Багацэвіч** з Орлі, які ў сваёй прафесіі працуе ўжо 32 гады:

— У нашай пякарні выпякаем хлеб, булкі і здобнае цеста. Падрыхтоўка цеста складаецца з некалькіх фаз. Спачатку муку і ваду трэба падагрэць да 30°С, а потым, дадаўшы іншыя інгрэдыенты, мясіць у змяшальніку — спецыяльнай машыне, якая прыводзіцца ў рух электрарухавіком. Потым цеста праходзіць працэс ферментацыі. Калі для выпечкі прымяняецца мука з „паросшага" або яравога збожжа, у якой малавата глютэну, для рассвятлення цеста і прадаўжэння свежасці хлебавырабаў дадаецца нямецкі прэпарат з марскіх водарасцей DE-451 або іншы сродак. Напрыклад, пры пшанічных хлебапрадуктах да 100 кг мукі дадаецца 80 г прэпарата, а да пшанічна-аржаных — 200 г. Фармаванне цеста ў нашай пякарні выконваецца пераважна рукамі (за выключэннем булачак). Цеста выпякаецца ў тэмпературы 220-290°С у печы, якая мае керамічны корпус. Усаджваем цеста ў печ і вымаем пры дапамозе пякарскіх лапат.

* * *

Культ хлеба захаваўся да сённяшняга дня ў многіх культурах. Доказам гэтаму могуць быць беларускія абрады і звычаі, песні, прыказкі і прымаўкі. Сёння нямногія самі пякуць хлеб. Робяць гэта найчасцей жыхары аддаленых хутароў ці малых вёсак, у якія нават аўталаўкі не прыязджаюць. У сялян хлеб не марнуецца. Недаедкамі або сухім хлебам гаспадары кормяць жывёлу. У гарадах не відаць, каб нехта збіраў сухі хлеб. Найчасцей трапляе ён у сметнікі, а пасля на звалку, дзе кормяцца ім птушкі, звяры, а нават і ўбогія, бяздомныя людзі.

* * *

У малітве „Ойча наш" людзі пастаянна паўтараюць: „хлеба нашага надзённага дай нам сёння". У гэтых словах выяўляецца просьба, каб ніколі не было недастачы асноўнага прадукту харчавання — хлеба.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Жорны, дубовая бочка і ліповыя капанькі — творы рук Яна Мінцэвіча, бацькі аўтара.*



**Аўрора**

## Пуста

Бела і пуста ў полі.
Не відна ні людзей,
ні птушак, ні звяроў.
Толькі стаіць адзінокая
высокая бярозка.
Яна штодзень пытае
ветру: — Хутка прыйдзе вясна?

## Наш свет

зялёны час
блакіт каля нас
вецер на галінах
весела іграе
танцуем ты і я
радасна на душы
мінаюць бестурботна
доўгія дні

# Ці падлічаць белавежскіх зуброў?

Працаўнікі Белавежскага нацыянальнага парку не могуць правесці штогадовага перападліку пражываючага там статка зуброў, бо бракуе снегу і ў лесе поўна жалудоў. Статак, які жыве на свабодзе, можна пералічыць толькі тады, калі ўпадзе снег. Тады адмысловая камісія наведвае кармавыя пункты, дзе збіраецца звярына і падлічвае сляды. Аднак у гэтым годзе і тут клопат, бо летам абрадзілі жалуды, якімі ласуюцца зубры і не маюць яны ахвоты пакідаць іх дзеля менш апетытнай ежы ў кармавых пунктах. Мяркуецца, што ў Белавежскай пушчы пражывае статак зуброў колькасцю ў 260 штук.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Пошта больш сучасная

На працягу 1992—1996 гадоў былі грунтоўна адноўлены звыш 60 паштовых устаноў. Эстэтычныя памяшканні і сучаснае абсталяванне атрымалі пошты ў Галадах, Боцьках, Ласінцы, Нараўцы, Орлі, Пліках, Кузніцы-Беластоцкай, Зубках, Шымках і Ялоўцы.

Да новых, лепшых і больш прасторных будынкаў былі перанесены пошты між іншым у Храбалах, Сямятычах, Юхноўцы, Новым Беразове і Арэшкае. Новыя паштовыя аддзяленні адкрылі ў Беластоку і Сямятычах. **(яц)**

# Пажар царквы ў Маронгу

У панядзелак 27 студзеня а гадзіне 20[25] пачала гарэць праваслаўная царква на паслянямецкім могільніку ў Маронгу, што пры выязной дарозе ў напрамку Малдытаў. Раней у царкву бывалі ўзломы. Пяць гадоў таму зладзеі ўкралі ўсю чарапіцу з даху. Паўгода таму ўзломшчык, выламаўшы краты ў акне, забраў дзве драўляныя іконы. Як сказаў настаяцель Уладзімір Курыловіч, перад пажарам злачынцы выбілі шыбы. У панядзелак прапала пяць іконаў: чатыры папяровыя ў сярэбраных рамках і адна выціснутая ў блясе. Іконы гэтыя недарагія і ў царкву прынеслі іх прыхаджане. Апрача іконаў прапалі літургічныя аблачэнні і кнігі, пяць кілаграмаў свечак і аздобны налтарнік. У святыні адпраўлялі свае набажэнствы і евангелікі, якім згарэла каштоўная фісгармонія з пачатку стагоддзя.

Ольштынская паліцыя затрымала ўжо падазронага, былога паліцыянта Зэнона Ш. з Маронга, у якога кватэры знойдзена ўкрадзеныя іконы і прадметы з другіх узломаў. Злачынца падпаліў святыню, каб зацерці сляды ўзлому; згарэла часць храма.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Даўгавечныя

Пажылы чалавек гэта такі, якому 80—90 гадоў. Звыш 90-гадовыя — гэта ўжо асобы даўгавечныя.

У Белавежскай гміне найстарэйшым жыхарам з'яўляецца 97-гадовы Раман Падлашчык з Белавежы, а ў Нарваўскай — 99-гадовы Ігнат Федарук з Кутавой.

У Дубіцкай гміне да даўгавечных належаць 94-гадовыя Шымон Мацкевіч з Доўгага Броду, Мікалай Бахмат з Руткі і Фёдар Куптэль з Ягаднікаў.

У Гайнаўскай гміне па 97 гадоў маюць Пётр Крук з Новага Беразова, Пелагея Устынюк з Навасадаў і Галена Яўдосюк з Прагалёў.

У Чаромхаўскай гміне найстарэйшымі жыхарамі з'яўляюцца 97-гадовыя: Анастасія Шапуцька, Ян Рошчанка, Анна Данілюк і Васіль Данілюк са станцыі Чаромха ды Анна Алімпіюк з Зубачоў.

Ёсць даўгавечныя людзі і ў Арлянскай гміне. Вось яны: 98 „вясна" набліжаецца ў Аксінні Калішук з Маліннік і ў Мар'і Маскалюнец з Орлі, 92 год пачнуць Лідзія Раманюк са Шчытоў-Дзенцялова, Надзея Кабрынец з Градалёў і Кацярына Кавальская з Крывятыч.

Пастарэлым жыхарам жадаем сама менш сотні гадоў жыцця! **(яц)**

# „Ён размаўляў на крынічна чысцюткай беларускай мове”

**Сярод маляўнічых краявідаў сінявокай азёрнай Браслаўшчыны на паўночным захадзе Беларусі ляжыць вёска Ваўкоўшчына. Тут у хатцы пад двума разложыстымі клёнамі жыве адзін з ужо нямногіх, хто ў свой час быў знаёмы з Уладзіславам Казлоўшчыкам і добра памятае яго. 85 вёснаў ужо прывітаў Віталь БАГДАНОВІЧ. Шмат радасцей і смутку, цяжкасцей і прыгод, страт і знаёмстваў сустрэў ён на сваім доўгім шляху. У шэрагу іншых было і знаёмства з вядомым беларускім дзеячам, рэдактарам „Беларускай газеты”.**

Маё знаёмства з Уладзіславам Казлоўшчыкам адбылося ў 1935 годзе. Я, тады хлапец пасля заканчэння Вышэйшай тэхнічнай школы ў Вільні працаваў на будове гімназіі ў Браславе. Кватаравалі мы разам з кіраўніком будовы А. Пецюкевічам у доме Кручкоўскага па вуліцы 3-га Мая ў Браславе. Аднаго дня, калі я працаваў у нашым пакоі з чарцяжамі, прыйшоў А. Пецюкевіч разам з маладым чалавекам і дзяўчынай. Пазнаёміліся. Гэта аказаліся добрыя знаёмыя Пецюкевіча Уладзіслаў Казлоўшчык разам з Аленай Аніська. Троху паразмаўлялі, але паколькі ў кожнага былі свае справы, скора разышліся. Вечарам мы зноў сабраліся ў нашым пакоі на сяброўскую вячэру.

З таго дня Уладзіслаў запомніўся мне ветлівым, інтэлігентным чалавекам. Разам з тым па выпраўцы, сабранасці, дакладнасці руху адчуваўся былы вайсковец. Нават апрануты быў напалову павайсковаму — у чорную скураную куртку, галіфэ. Насіў рагатыўку. На нагах — высокія вайсковыя боты.

Найбольшае ўражанне на мяне тады зрабіла яго мова. Справа ў тым, што большасць сялян у нас у той час размаўляла на дастаткова зрусіфікаваным мясцовым дыялекце беларускай мовы, да таго ж даволі абмежаваным і лексічна. Старэйшая генерацыя вышэйшых слаёў і інтэлігенцыі ўжывала літаратурную рускую мову, а моладзь усё часцей карысталася польскай. На гэтым фоне сакавітая і мілагучная, багатая і правільная беларуская мова Уладзіслава Казлоўшчыка рабіла непаўторнае ўражанне. Ён размаўляў на крынічна чысцюткай беларускай мове. У размове падчас вячэры мы асабліва не закраналі палітычных тэмаў. Так, звыклая размова маладых людзей — аб усім патроху, аб жыцці, магчыма пару анекдотаў, нейкія цікавыя здарэнні. Уладзіслаў аказаўся цікавым і прыемным суразмоўцам. Адчувалася яго зацікаўленасць беларускай гісторыяй і літаратурай, яго заангажаванасць у беларускім нацыянальным руху. Але ўсё гэта вельмі тактоўна, карэктна і натуральна, што выразна адрознівала яго ад мясцовых КПЗБоўскіх дзеячаў. Яго стаўленне да суразмоўцы вызывала прыязнасць і зацікаўленасць.

Алена Аніська — добрая знаёмая Уладзіслава, а магчыма ўжо і нарачоная, на той час была па заканчэнні гімназіі ў Друі і збіралася працягваць адукацыю ва універсітэце. Пасля той першай нашай сустрэчы мы з Уладзіславам Казлоўшчыкам некалькі гадоў не бачыліся, а зноў сустрэліся падчас вайны. Уладзіслаў з Аленай ужо былі пабраўшыся, жылі ў Міёрах. Добра зараз не памятаю, але магчыма ўжо было ў іх дзіця. Я тады працаваў у прамысловым аддзеле ўправы ў Міёрах. Мы ўзнавілі знаёмства. Даволі часта сустракаліся, але асабліва запомнілася апошняя сустрэча, а дакладней развітанне. Аднаго дня Уладзіслаў зайшоў да нас у аддзел і паведаміў, што адпраўляецца ў Менск арганізаваць выданне „Беларускай газеты”. З сабой меў толькі рэчмяшок з самым неабходным. Збіраўся пешшу дабірацца да Глыбокага, далей на чым пашчасціць. Мы ўсе хто быў у аддзеле пайшлі праводзіць яго. Было вельмі цёпла. Сапраўднае летняе надвор'е. Адпаведна яму быў і настрой Уладзіслава і наш.

Ніхто з нас у той час нават не здагадваўся, што праводзіў яго ў астатні шлях.

Аб Уладзіславе Казлоўшчыку падчас службы ў Польскім Войску мне давялося чуць з вуснаў Яна Туронка, які ў дваццатыя гады служыў пад камандай Уладзіслава. У асяроддзі жаўнераў Уладзіслаў карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам за прынцыповасць і разам з тым чалавечае, чулае стаўленне да сваіх падначаленых, шэрагоўцаў.

Запісаў Алесь Залескі

# Беларускі каляндар 1997

**З прыемнасцю паведамляем усім калекцыянерам бэгэкатоўскага „Беларускага календара”*, што сёлетні штогоднік ужо з'явіўся ў продажы. Выдавецтву „Беларусь” і Паліграфічнаму камбінату Менскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга належацца тут віншаванні за хутчэйшую чым у мінулых гадах тэхналагічную апрацоўку гэтага выдання. Словы прызнання належацца таксама складальнікам „Календара” — Уладзіміру Юзвюку і Міколу Гайдуку за вернасць шматгадовай традыцыі, выяўленай так у форме, як і ў змесце.**

„Календар” адкрывае верш Алеся Барскага „Таварыства — наш дом”. Загаловак з'яўляецца як бы скарочанай версіяй зместу. Паэт у прыгожай форме інфармуе чытачоў, што БГКТ „вырасла з зямлі”, з'яўляецца „сімвалам роднай мовы” і ёсць „як дом прасторны і супольны”, а таксама „як грунт пад дружбу, чалавечнасць”, „як сон аб лепшым новым свеце”. Фатаграфічны матэрыял са святкавання 40-годдзя БГКТ прадаўжае прыўзнятую атмасферу, створаную на пачатку паэтам Алесем Барскім. Для моладзі прапануецца нарыс пра кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расіі. Юбілейны настрой працягвае Янка Сычэўскі. Артыкул старшыні Таварыства і дапаўняючы яго фотаматэрыял маглі б паслужыць прыкладам як „аб'ектыўна прадстаўляць факты”. Дваццаць наступных старонак займаюць віншаванні, адрасаваныя Янку Сычэўскаму, зразумела, з нагоды юбілею арганізацыі, ад прэзідэнтаў і прэм'ераў еўрапейскіх краін, ваяводаў, войтаў, паэтаў, вядомых грамадскіх дзеячаў і іншых асоб.

Шмат месца ў „Календары” адводзіцца передрукам з польскай прэсы, прысвечаным юбілею. Змяшчаецца ўсё тое, што друкавалася ў станоўчым тоне. Свае меркаванні пра „мінулае і сённяшняе БГКТ” прадстаўляюць Віктар Хшаноўскі, Міхась Голуб і Міхась Хмялеўскі. Прыемна прачытаць, што таксама ў семідзесятых і васьмідзесятых гадах беларускае жыццё на Беласточчыне, дзякуючы БГКТ, дынамічна развівалася. Не менш цікавы матэрыял прадстаўляе „Летапіс дзейнасці БГКТ у 1995-1996 гадах”. Гэта дэталёвы пералік падзей з жыцця Таварыства за апошнія два гады, які выйшаў з-пад пяра старшыні арганізацыі, узбагачаны здымкамі Сяргея Грынявіцкага. Ад юбілейнага настрою адыходзяць, хаця не зусім, бэгэкатоўскія эсэісты Уладзімір Юзвюк, пакойны Сяргей Крэйза і Аляксандр Іванюк, якія прыбліжаюць чытачам нядаўняе мінулае Беласточчыны. Асаблівa варты ўвагі артыкул Аляксандра Іванюка пра лёс Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, ліквідаванага ўладамі ў 1973 годзе. У разважаннях спадара Іванюка здараюцца фразы, якія адыходзяць ад святочнай атмасферы гэтага выдання. Аўтар закідае нават тадышняму старшыні Таварыства Мікалаю Самоцюку, што не рэалізаваў пастаноў „актыву” і таму музей расплыўся разам з экспанатамі.

Вельмі арыгінальны нарыс пра незалежную Рэспубліку Беларусь змяшчае прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Расціслаў Жмойдзяк. Аказваецца, што ў Беларусі ўсё ідзе ў добрым напрамку. Незалежная „Беларусь паглыбляе інтэграцыю ў эканамічнай і гуманітарнай сферах з Расіяй, Казахстанам і Кыргызстанам”. Уладамі краіны вядзецца палітыка „дэмакратызацыі, а палітычныя і эканамічныя рэформы стварылі ўмовы для беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння”, — піша прафесар.

Літаратурная творчасць Віктара Шведа, Алеся Барскага Янкі Целушэцкага і Міколы Гайдука замыкае „Беларускі каляндар” на 1997 год

Варта таксама звярнуць увагу на мастацкую апрацоўку гэтага выдання, а асабліва на вокладку. Змешчаныя ў ім здымкі захоўваюць гарманічную сувязь са зместам, а ў чытача павінны выклікаць шырокі дыяпазон сентыментальных успамінаў.

Толькі за 3 злоты кожны, хто стане ўласнікам „Календара”, атрымае літаратуру годную ўвагі сацыёлагаў, палітолагаў, гісторыкаў ды прадстаўнікоў іншых галін навукі. **(ям)**

***Беларускі каляндар 1997*, Мінск, „Беларусь”, 1997, выдадзена па заказу БГКТ у Польшчы, рэд. У. Юзвюк, с. 254.

# Пра Галавача слоў некалькі

У 4 нумары „Нівы” ад 26 студзеня 1997 г. прачытаў я артыкул пад загалоўкам „Хацелі быць беларусамі”. Артыкул вельмі цікавы ды сённяшняму чытачу дае магчымасць даведацца, у якіх „дэмакратычных” абставінах прыйшлося дзейнічаць беларускім паслам польскага санацыйнага Сейма.

Мяне зацікавіла асоба Фелікса Галавача. З гэтым чалавекам я асабіста сустрэўся ў маі 1946 г. у мясцовасці Плішка гміны Бытніца павета Кросна-Аджаньске Зялёнагурскага ваяводства. Спадар Галавач працаваў там войтам гміны Бытніца. Паходзіў ён са Стаўбцоўшчыны, як не памыляюся, з вёскі Залужжа. Меў там уласную сельскую гаспадарку. Да 1939 г. быў вядомым беларускім дзеячам, знаёмым з маім бацькам. Калі мы з бацькамі прыехалі ў Польшчу (май 1946 г.) ды пасяліліся ў мясцовасці Плішка ў гміне Бытніца, цераз некалькі дзён прыехаў да нас на ровары Галавач. Прывітаўся з маім бацькам як з родным братам ды сказаў наступныя словы: „Пане Пракаповіч, куды ж мы прыйшлі нявідні нязгі, беларусам у вочы крычалі врагі”. Падчас размовы Галавач апавядаў, што ў 1940 г. савецкія органы ўнутраных спраў арыштавалі яго, а пасля нейкага часу разам з сям'ёю быў ён вывезены ўглыб Савецкага Саюза (мясцовасці не памятаю). Пасля вайны, як былы грамадзянін Польшчы, прывезены ён быў з сям'ёю на г.зв. Вернутыя землі (Ziemie Odzyskane) ды пасяліўся ў в. Бытніца. Тут польскія ўлады паставілі яго войтам гміннай управы. Дзякуючы знаёмству з Галавачом мае бацькі, а поруч з імі і другія рэпатрыянты са Стаўбцоўшчыны, якія пасяліліся ў вёсцы Плішка, атрымалі з гміннай управы беззваротную грашовую дапамогу ды іншыя прадукты як зерне і падарункі з УНРРА.

Галавач некалькі разоў наведваў дом маіх бацькоў ды размаўляў пры гасцінным стале з другімі сялянамі з Плішкі. Галавач быў добрым сябрам. Падчас размовы гаварыў, каб усе пасяленцы трымаліся супольнай грамады. Быў перакананы, што за 2—3 гады будзем вяртацца на Бацькаўшчыну, дык у супольнай грамадзе будзе больш шанцаў шчаслівa вярнуцца. Расказваў пра вядомыя яму падзеі на Беласточчыне ў тыя часы, аб цяжкай долі беларускіх сялян. Прапанаваў сялянам зрабіць у вёсцы на ўзор самааховы пастарунак дзеля патрулявання вёскі ды абяцаў, што зробіць усё неабходнае, каб атрымаць зброю. (Зброі ў той час па лясах і так было шмат.) Аднак сяляне адмовіліся, бо там было спакойна і ніхто іх не турбаваў. (У адным выпадку, дзесьці восенню 1946 г. у аднаго з сялян рабілі адпачынак каля 20 жаўнераў УПА, але нікому не зрабілі аніякай крыўды, бо напраўляліся на Захад.)

Пры канцы 1947 ці ў пачатку 1948 г. Галавач быў звольнены з пасады войта, ды выехаў з сям'ёю на Шлёнск або ў Ольштын. Сям'я яго складалася з двух дарослых дачок (паненак) і жонкі. Прыслаў ён быў адзін ліст майму бацьку, у якім запрашаў адведаць яго, але бацька запрашэннем не пакарыстаўся, а адрас дзесьці прапаў. Вось гэтак запамятаўся мне былы беларускі пасол у польскім Сейме і войт гміны Бытніца. Сапраўды быў ён добрым і спагадлівым чалавекам.

Некалькі слоў пра самую вёску Плішка (па-нямецку: Pleiskhammer). Распалажана яна сярод лесу над аднайменнай рэчкаю. Да найбліжэйшага населенага пункта і чыгуначнага прыпынку было 3,5 км, а да гміннай управы ў Бытніцы — больш за 10 км. Вёска налічвала 21 дамоў, але жыло там у той час толькі 8 сем'яў, прыехаўшых са Стаўбцоўшчыны карэнных беларусаў, якім удалося пазбегнуць савецка-лагернага раю ды ўцячы ў Польшчу. Былі гэта наступныя сем'і: Юстына і Івана Пракаповічаў, Алеся Халявінскага, Язэпа Шалькевіча, Францыся Ямёла, Язэпа Дразда (жыхары вёскі Кучкуны), Міхася Верамеі і Паўла Кардуновіча (з в. Налібакі), Сцяпана Пяткевіча (з в. Слабада) ды Івана Сайкоўскага (з в. Кучкуны).

**Юстын Пракаповіч**

# Старонка ліцэіста

## Басаўка '96

14 снежня 1996 года ў Варшаве адбылося першае мерапрыемства, арганізаванае новым варшаўскім БАСам. Разам з „Басаўкай" (гэта назва канцэрта) адбыліся атрасіны беларускіх студэнтаў.

Першую „Басаўку" распачаў старшыня варшаўскага гуртка БАСу Лукаш Стэпанюк (студэнт І-га курса беларускай філалогіі) і Тамаш Хіліманюк (студэнт ІІ-га курса беларускай філалогіі).

Як першы выступіў выпускнік гайнаўскага белліцэя Мар'юш Ажахоўскі, які распачаў свой канцэрт песняй на словы Лукаша Стэпанюка „Каменьчык". Апрача беларускіх песень Мар'юш заспяваў дзве польскія песні. Цэлы рэпертуар, які прадставіў гайнавянін, аранжыраваны самім выканаўцам. Не абышлося без вядомага ўсім гайнаўскім ліцэістам твора ў выкананні Мар'юша „Беларусь мая", якім саліст закончыў свой канцэрт у Варшаве.

Пасля Мар'юша варшаўская публіка выслухала песень Андрэя Мельнікава, лаўрэата „Бардаўскай восені '96". Беларускі бард заўсёды шакіруе сваім палітычным творам, таксама з такой рэакцыяй спаткаўся ён у Варшаве.

Пасля гэтых канцэртаў адбыліся атрасіны, якія падрыхтаваў ІІ-гі курс беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Усіх вельмі паразіла прысутнасць „катоў", якія масава прыбывалі з розных вышэйшых устаноў. Думаю, што гэтая забава ўсім вельмі спадабалася.

Доўгачаканы канцэрт беларускага рок-гурту „Крама" з Менска адбыўся пасля перапынку. Усе мы цудоўна гулялі пры „Стэфцы", „Бяжы, хлопец!" ці „Хворы на рок-н-рол". Нягледзячы на невялікую залу, у якой адбывалася цэлае мерапрыемства, усе сябе вельмі добра адчувалі, як вялікая сям'я. І публіку, і групу спалучыла цудоўная сувязь. Была так добрая забава, што ніхто не звярнуў увагі на час працы музыкантаў. На жаль, у нас на Беласточчыне такіх канцэртаў вельмі мала. Усе маладыя людзі з нецярплівасцю чакаюць „Басовішча", адзіную рок-імпрэзу беларусаў, хаця яна з году ў год становіцца менш беларускай. Такія зоркі як „Крама" часта выступаюць у канцы фестывалю і не ўсе могуць іх пачуць, бо пасля такога шпаркага ўдару музыкі, яны проста ідуць спаць, а застаюцца толькі самыя трывалыя.

Каля першай гадзіны ночы ўсе разышліся па акадэміках. Забава працягвалася ўжо там аж да рання.



*Мар'юш Ажахоўскі (Гайнаўка).*

Я вельмі задаволеная, што магла пабываць на такой імпрэзе з іншымі беларусамі. На канец усім БАСаўцам жадаю поспехаў і больш такіх удалых канцэртаў.

**Мар'я Мусюк**



*Андрэй Мельнікаў (Гродна).*



*Усе цудоўна гулялі, калі грала „Крама".*

## 10 вобліказў мэты існавання

Усе мы ў жыцці думаем аб яго сэнсе. Якая мэта нашага існавання? Гэтае пытанне ўсё больш ставяць сабе маладыя людзі. Чаму чалавек нарадзіўся, у чым ён бачыць сваё шчасце? Сваімі поглядамі дзеляцца з намі вучні ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы:

**Тамаш:** Наша мэта ў жыцці гэта збаўленне; зямная мэта — прафесійная рэалізацыя. Магчыма, калі міне 10 гадоў, больш важнейшай будзе рэалізацыя ў сям'і. Гэта ўсё. Задоўга я гэтага шукаў, каб больш гаварыць.

**Віялета:** Жывём, каб пазнаць свет, адкрыць штосьці новае. Ужо тое, што Бог даў нам жыццё азначае, што мэта і сэнс ёсць! Але які? Дакладна не ведаю.

**Аркадзь:** Сэнс? — хіба дастойнае жыццё; унесці якіесьці навасці і, зразумела, збаўленне.

**Павел:** Сэнс? — напэўна не грошы. Галоўнае ў жыцці гэта каханне. Я хацеў бы займацца чымсьці, што для мяне падабаецца, што гарантавала б сярэдні быт. Вось мой тэзіс: аглянуўся б назад, нічога не пашкадаваў бы. Трэба жыць так, каб у будучым жыцці атрымаць збаўленне. Для мяне жыццё — гэта прыпынак, хвілінка...

**Агнешка:** Я думаю, што стварыў нас Бог, каб паказаць нам, якое прыгожае ёсць жыццё. Можа жыву, каб стварыць новае, а можа мы ўсе жывем, каб пазней памерці.

**Моніка:** Жыццё гэта надзвычайны дар ад Бога, гэта падарунак ад Яго. Так як не выкідаецца гасцінцаў, таксама мы не можам упусціць жыцця.

**Эва:** Адзіны сэнс, які магу знайсці — гэта тое, што жыву, каб пазней памерці.

**Агнешка:** Сэнс? Напэўна мае сувязь з Богам. Жыццё, як кантрольная праца, кожны чалавек даказвае, у якой ступені ён можа ахвяраваць сабою. Сваімі паводзінамі, учынкамі і поглядамі на розныя справы даказвае сваю веру і тое, якім ён сапраўды ёсць.

**Мар'я:** Дасягнуць збаўлення і агульнага шчасця. Паводле мяне, кожны чалавек імкнецца да таго, каб жыць найлепш і найшчаслівей.

**Андрэй:** Я думаю, што чалавек не можа адказаць на пытанне: „Чаму мы жывём?"

**Кацярына Ігнацева**

## „Паэзія — душа кожнага паэта"

**„Паэзія не хлеб — можна жыць і без яе, але і яна адыгрывае вялікую ролю ў жыцці чалавека". У тых словах знаходзім многа праўды і мудрасці. Самому чалавеку паэзія з'яўляецца духовым заспакаеннем яго душы.**

На другі дзень VI Сустрэч „Зоркі" — у суботу, як і на амаль кожных сустрэчах, удзельнікаў падзялілі на тры групы. Наша другая група з настаўніцай Валянцінай Бабулевіч і ліцэістам Тамашом Саевічам накіравалася ў родную вёску вядомага паэта Міхася Андрасюка — Войнаўку. Увайшоўшы ў вёску, пачалі мы шукаць хату пад нумарам 20. Неўзабаве знайшлі яе. Гэта была драўляная, жоўтая хата з ганкам. Калі мы ўвайшлі на панадворак, з радасцю нас прывіталі бацькі паэта. Яны запрасілі нас у хату. У хаце прывіталіся мы з самым Міхасём Андрасюком. Ён таксама радасна нас сустрэў і пачаў расказваць гісторыю вёскі. Памагаў яму бацька. Але мяне больш цікавіла творчасць паэта.

„Паэзія гэта не хлеб, можна і жыць без яе, але і яна адыгрывае вялікую ролю ў жыцці чалавека", — пачынае гутарку аб паэзіі Міхась Андрасюк. Сам паэт пачаў пісаць у VII класе пачатковай школы. Яго першы верш быў на польскай мове. Ужо ў ліцэі пачаў пісаць на беларускай мове і высылаць у „Ніву". Цяпер паэт не піша вершаў, але піша ў „Ніву" штосьці ў форме фельетонаў — „У кіпцюрах цецерука".

— Пачаткова пра беларускую літаратуру я мала ведаў, але калі я яе пазнаў бліжэй, то цяпер ведаю, што яна — гэта вельмі-вельмі вялікае багацце беларускага народа, — прызнаецца паэт.

Самым любімым ягоным паэтам з'яўляецца Рыгор Барадулін. Яго паэзію Міхась Андрасюк пазнаў бліжэй, калі пабываў у Беларусі. Некалькі яго кніжак прывёз ён дамоў.

У вершы найважнейшая рэфлексійная думка. Яна з'яўляецца фундаментам самога верша. Гэта думка не прыходзіць з прымусу, але ў розных сітуацыях: у дарозе, у цягніку і г.д. Каб думку гэтую падтрымаць, трэба перш-наперш выліць яе на паперу. Так вось і паўстае верш, але гэта не ўсё. З верша таго трэба штосьці выкінуць, змяніць або дадаць. Няма вершаў ідэальных, таксама як і свет не ёсць ідэальны. Кожны верш мае ў сабе штосьці добрае, але і неадпаведнае. Кожны паэт мае таксама свой спосаб, характар выказвання думак на паперы. Гэта жанр. Паэт яго не мяняе, але ўдасканальвае. Прыкладам можа быць вядомая не толькі ў Польшчы, але і за яе межамі, беларуская паэтэса Надзея Артымовіч. На аснове яе вершаў можна сказаць, што паэтэса ідзе, кіруецца тым самы жанрам, не мяняе яго, а ўдасканальвае. Яна ідзе паступова, а гэта вельмі добра. Верш мае сваю галоўную думку, якую паэт скрыў у вершы. Паэзія — гэта не проза; каб знайсці гэту думку перш-наперш трэба дакладна прасачыць кожнае слова ў вершы, перадумаць, адгадаць галоўную думку паэта, выказаць, аб чым гаворыцца ў вершы.

Паэзія адыгрывае вялікую ролю ў літаратуры, але і ў жыцці. Гэта яна прымушае чалавека да глыбокага ўнікнення ў думку, выклікае рэфлексію. Паэзія не корміць, але і яна мае месца ў жыцці.

**Юрка Буйнюк**

*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі")*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## VIII Сустрэчы „Зоркі" ў Нарве

VIII Сустрэчы „Зоркі" праходзілі ў днях 3—8.02.1997 г. у Нарве. У мерапрыемстве ўдзельнічала 50 асоб з Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных, Новага Корніна, Курашава, Кленік, Аўгустова, Беластока, Гданьска. Сярод дзяцей і моладзі былі і вучні з ПШ у Нарве. Яны складалі самую вялікую групу з 15 асоб. Дзеці, моладзь, мастакі, журналісты і настаўнікі працавалі ў пяці групах. Плёнам іх працы была пастаноўка п'есы пад загалоўкам „Карнавал у Нарве". Слоў колькі пра заняткі ў групах:

Наймалодшыя дзеткі рыхтавалі сцэнічны твор пра птушак. Яны таксама размалявалі і зрабілі сабе птушыныя ўборы. Групай кіравалі Янка Мордань і Ніна Абрамюк.

Сярэдняя тэатральная група падрыхтавала пантаміму паводле легенды пра Нарву. Гэтая ж група вельмі цікава паставіла сучасны вар'янт агульнавядомай казкі пра Чырвоную Шапачку. Юнымі акцёрамі кіравалі юныя аматары тэатра — Тамаш Саевіч з Гайнаўскага ліцэя і Валянціна Бабулевіч.

Найстарэйшыя ўдзельнікі „Сустрэч" гулялі ці не найбольш бліскуча. У выглядзе альтэрнатыўнага тэатра паставілі яны сцэнку „Песня астаецца ў сэрцы". Групай кіравала Аля Ваўранюк.

Не сядзелі бяздзейна і публіцысты. Яны не толькі апісвалі „Сустрэчы" і стваралі рэпартаж пра Нраву, але заадно і гулялі ў тэатр. Дапаўненне складала мастацкая і харэаграфічная групы. Пад кірункам Алега Кабзара і Дарафея Фіёніка падрыхтавалі яны сцэнічнае афармленне і музыку.

Рэдакцыя „Зоркі" і ўсе ўдзельнікі VIII Сустрэч у Нарве вельмі сардэчна дзякуюць сваім спонсарам: **Міністэрству культуры і мастацтва** і **Польскаму фонду дзяцей і моладзі.**

**Арганізатар „Сустрэч"**
**Ганна КАНДРАЦЮК**



*Хлопец з гітарай заварожвае...*

**03. 02. 1997 г.**

Як прыемна спаткаць сяброў, якіх мы не бачылі доўгі час. Тады так цікава ў гутарцы праплываюць хвіліны.

Калі я ехала на VIII Сустрэчы „Зоркі", доўга гадала, ці будзе таксама цікава як на папярэдніх мерапрыемствах. Не памылілася. Калі я наведала элегантны гатэль у Нарве, прадчувала, што буду адвучаць сябе як найлепш.

Я найбольш цаню адносіны да другіх людзей. Вельмі цешуся, што на сустрэчы можна спаткаць сардэчных і шчырых удзельнікаў.

Нарва — гэта прыгожая мясцовасць. Раней была яна горадам. На жаль, цяпер гэта толькі пасёлак. Знаходзіцца тут вялікая школа, а і дзетак у ёй нямала. Сяброўкі з Нарвы пасля смачнага абеду паказалі нам наваколле. Доўгі час я думала, што няма тут нічога надзвычайнага, пакуль не ўвайшла ў царкву, якая аказалася сапраўды прыгожай. Ад айца Васіля Рошчанкі я пачула гісторыю храма. Засумавала, калі даведалася аб пажары, які здарыўся шэсць гадоў таму. Захаваліся дзве іконы, якія прыхаджанам і святару вельмі дарагія. Бацюшка пераказаў нам многа цікавых інфармацый, звязаных з царквой і праваслаўнымі вернікамі. Мяне захапіла тое, што гэтыя тэрыторыі з'яўляюцца бацькаўшчынай двух епіскапаў — уладыкі Авеля і Іераміі, а таксама мітрапаліта Васілія. Не хацелася выходзіць з так цудоўнага месца, якім з'яўляецца нарваўская царква.

Вечарам, калі мы вярнуліся з экскурсіі і крыху аддыхнулі, пачалі рыхтаваць вячэру, якая пэўна ўсім смакавала, бо не пачулі скарг і пратэстаў. Пасля наша група доўга задумвалася над сцэнкай, якую маем прыгатаваць у старэйшай тэатральнай групе. Хаця пасля вячэры цяжка думаць, было нямала арыгінальных думак і прапаноў.

У час вечарыны мы спявалі песні, а таксама слухалі выступленне спадара Янкі Морданя, які прыгожа і арыгінальна апавядаў і дэкламаваў верш Янкі Купалы „Я мужык — беларус". На канец пачулі мы таксама ад яго прыгожую байку. Апрача таго вельмі падабалася калыханка, якую заспяваў спадар Алег Кабзар.

**04. 02. 1997 г.**

Пасля снедання былі сустрэчы ў групах. Я пайшла ў публіцыстычную, дзе супольна са спадарыняй Ганнай Кандрацюк гаварылі пра рэпартаж і апісанне „Сустрэч". Вялікае ўражанне рабілі заняткі ў тэатральным гуртку. Там мы спявалі, танцавалі, праводзілі гутаркі паміж сабой і дэкламавалі вершы. Мяне гэта надзвычай зацікавіла, бо здавалася зусім новым, яшчэ не адкрытым. Пасля абеду прыехалі да нас у госці пан Артур Лэнга з Польскага фонду дзяцей і моладзі, спадарыня Барбара Пякарская і сп. Аляксандр Максімюк. На вечарыне было так цікава, што не хацелася, каб яна канчалася. Калі госці толькі ўвайшлі ў святліцу і паспелі сесці, згасла святло. Апрача маленькіх дзетак ніхто не перапалохаўся. Калі арганізатары апанавалі сітуацыю і запалілі свечкі, мы вывучылі вельмі прыгожую песню пад загалоўкам „За дружбу" Роберта Бэрнса.

Спадабалася мне выступленне спадара Янкі Морданя, які спачатку прыкідваўся настаўнікам, а пасля сарганізаваў драматычныя гульні, у якіх я таксама ўдзельнічала, з чаго цешылася.

Вельмі люблю людзей, якія ўмеюць іграць прынамсі на адным інструменце. Музыка наводзіць настрой. Дзякуючы ёй можам пераказаць слухачам мноства думак! На жаль, не кожны мае магчымасць вучыцца іграць на інструментах.

Вельмі мяне цешыць, што на нашай сустрэчы я мела магчымасць паслухаць музыку ў выкананні Дарафея Фіёніка і Алега Кабзара. У нашым асяроддзі ёсць нямала людзей, якія не прызнаюць прыгажосці народнай музыкі. Гавораць тады з насмешкай і паўтараюць, што ў ёй няма сэнсу. Як жа яны памыляюцца!

Пасля вечарыны некалькі асоб, а ў тым ліку і я, засталіся паслухаць як ігралі спадары Алег і Дарафей. У той жа момант я зразумела, як важнай з'яўляецца музыка ў жыцці чалавека. У сувязі з гэтым здаецца мне, што мы павінны шанаваць музыку, бо калі пра яе забудзем, свет станецца нецікавым і вельмі сумным.

Думаю, што ў іншыя дні таксама заўважу надта цікавыя здарэнні, на якія часта не звяртаем большай ува-

## Карнава

## Крыжаванка № 8

прэм'ера спектакля

напр., мастацкая

на ёй выступаюць акцёры

тэатр руху

адтуль былі „рапэжы"

драматычны або сучасны

... з Сустрэч

яны найбольш падабаліся Ірэне Кулік

Запоўніце клеткі словамі, якія знойдзеце ў сённяшняй „Зорцы". Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 4:** шпак, кіпцюры, удар, расказ, сіла, пацук, Юда, раз, цырк.

**Запісныя кніжкі** выйгралі: **Грышка Цітко** з Гарадка, **Малгажата Базылюк** і **Івона Леанюк** з бельскай „тройкі", **Ірэна Дрэўноўская** з Катоўкі, **Бася Бірылка** з Новага Беразова і **Крыстына Буйнюк** з Маліннік.

Віншуем!

## Як я стаў комікам

Калі мы, старэйшая група, выйшлі на сцэну з пастаноўкай „Песня астаецца ў сэрцы", я выглядаў незвычайна. На мне была вышываная кашуля, кароценькая спадніца. Твар быў таксама размаляваны, шчокі, губы і вочы былі ў яркіх колерах. Усе з мяне смяяліся і пыталі: „Хто гэта за дзяўчыну пераапрануўся?" Я выступаў у сцэнках „Бабка Ёўка", „Чараўніца", „Хто мы". Раз я танцаваў і спяваў у рытме *рэгэ*, іншым разам быў у калектыве „Рапэжы з Трывежы" ці „Мумінкі з Ласінкі". Ніколі не забуду гэтых выступленняў.

**Марцін МЯЛЕШКА,**
**VII кл. ПШ у Новым Корніне**

Талон „Зоркі" № 8
23.02.1997


*„Дарма Ясю ходзіш" у стылі блюз...*


*„Рапэжы з Трывэжы"*

# у Нарве

гі, бо здаецца нам, што гэта няважнае. Сёння я зразумела, як важнай для мяне ёсць гэтая сустрэча.

**05. 02. 1997 г.**

Сёння прыехала спадарыня Лена Глагоўская, якая год таму прысутнічала на сустрэчы ў Бандарах. Некалькі асоб з нашай групы пайшлі на цікавую экскурсію па Нарве, дзе апекуном была спадарыня Лена. Наведалі мы некалькі цікавых месцаў, між іншым Нарваўскі асяродак культуры, дзе пра гісторыю мясцовасці расказала спадарыня Эва Алімоўская. Яна паказала таксама многа старых здымкаў з часоў вайны і пазнейшых. Мне яны надзвычай падабаліся. Найбольшае ўражанне рабіла вопратка людзей на здымках. Пасля абеду ў тамашняй школе асталіся мы на спатканне з даўняй настаўніцай, між іншым, беларускай мовы, Пачатковай школы ў Трасцянцы. Цікава было паслухаць аб моладзі, якую вучыла спадарыня Галена Тапалянская. Гэтай сустрэчы я ніколі не забуду.

У час вечарыны мы спявалі многа цікавых песень. Пасля арганізатары прапанавалі нам адпачынак, бо большасць адчувала сябе стомленымі. Але ніхто не хацеў пайсці спаць. Прыемна сядзелася ў святліцы пры палаючых свечках і патушаным святле. Ачаравала мяне таксама і сёння прыгожая музыка спадароў Алега і Дарафея, а спаць пры ёй зусім не хацелася.

**06. 02. 1997 г.**

Часта, калі слухаем радыёперадачы, ці глядзім тэлебачанне, не думаем, як цяжка падрыхтаваць такую ці іншую праграму. Здаецца, што не патрабуе гэта вялікай працы. Сёння прыязджаў да нас радыёжурналіст спадар Юрка Ляшчынскі, з дапамогай якога я і яшчэ тры асобы правялі інтэрв'ю з удзельнікамі VIII Сустрэч у Нарве. Я вельмі цешуся, што спадарыня Ганна Кандрацюк выбрала і мяне да гэтага. Я адчувала сябе сапраўднай журналісткай, хаця крыху баялася. Я з сяброўкай


*„Легенда пра Нарву"*

Аняй пыталі выбраныя асобы з усіх груп пра ўражанні. Жанэта і Міхась бралі інтэрв'ю ў кожнай групе, пыталі пра многае, між іншым пра тое, што робяць, што найбольш ім падабаецца і каторы раз яны на „Сустрэчах". Як жа прыемна паслухаць свой голас у перадачы „Пад знакам Пагоні". Колькі тады радасці! Цэлая сям'я цешыцца, усе хваляць, проста разумееш паняцце „слава".

Пасля абеду адбылася сустрэча з вядомай паэтэсай Надзеяй Артымовіч, якая цікава расказала пра свае вершы.

Старэйшая група, тэатральная, прыгатавала сёння вячэру. Я мела прыемнасць рабіць бутэрброды (з касметыкай), якія пасля з'ела наша апякунка. На вечарыне мы вывучалі новыя песні: „Ой, у полі азярэчка", „Раненька ў садочку" і іншыя. Усім гэта падабалася. Я зразумела, што на сустрэчах, а перш за ўсё на вечарынах, удзельнікі ствараюць адну сям'ю. Так прыемна спяваць у час спаткання. Гэтага я ніколі не забуду.

**07. 02. 1997 г.**

Як хутка плыве час. Нядаўна прыехала, а ўжо заўтра трэба ад'язджаць. Не паспела я з усімі пасябраваць, хаця было многа часу. Цешыць тое, што некалькі дзён магла я правесці з людзьмі, якіх люблю, цаню і шаную.

Пасля снедання амаль усе групы рыхтаваліся да прэм'еры п'есы „Карнавал". Каб прыгажэй мы выглядалі, спадарыня Аля Ваўранюк з нашай групы і некалькі дзяўчынак прынеслі з Нарваўскага асяродка культуры народную вышываную вопратку, якую складалі кароткая спадніца, белая блузка, фартушок і вянок. Спадарыня Ганна Кандрацюк многа фатаграфавала. Наша адзенне так нам падабалася, што калі надзелі прымераць, не хацелася яго здымаць. Скінулі ўборы толькі пасля артыстычнай часткі. На вечарыне прысутнічала многа людзей з Нарвы і ваколіцы. З вялікай цікавасцю слухалі яны тое, што мы гаворым, а некаторыя казалі, што так добра ўжо даўно не смяяліся. Вядома, прыемна пачуць такія словы. Найбольш падабалася, між іншым, выступленне сябра Міхася, які ў цікавы спосаб дэкламаваў намі складзены верш. На канец вечарыны было крыху сумна і, праўду сказаўшы, не толькі мне хацелася плакаць у час, калі спявалі. Але вядома, што добрае — хутка мінае. Калі госці разышліся, мы спаткаліся яшчэ раз. Тады я даведалася, што спадар Дарафей Фіёнік вельмі любіць капусту. Зацікавіла і аўтэнтычная сцэнка, якую прадставілі спадары Тамаш Саевіч, Алег Кабзар і Дарафей Фіёнік.

Сёння ўсе жадалі Міхасю Базылюку ўсяго найлепшага, таму што быў яго дзень нараджэння.

Вельмі шкада, што VIII Сустрэчы ўжо канчаюцца. Буду доўга іх і ўсіх удзельнікаў успамінаць.

**Ірэна Кулік**

*Фота Ганны Кандрацюк*

**Ад рэдакцыі:** Ірэна перамагла ў конкурсе на найлепшы дзённік пра VIII Сустрэчы „Зоркі" ў Нарве. Згадайма, што і ў мінулым годзе яна найцікавей напісала пра Сустрэчы у Бандарах. Віншуем!


*„Чырвоная Шапачка"*


*„Вераб'іныя госці"*

# II Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць II Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ,

— II група: моладзь сярэдніх школ,

— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас:

Redakcja „Niwy”
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok

з прыпіскай на канверце: II Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 15 красавіка 1997 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 31 мая 1997 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 3 000 злотаў. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Аб падзеле і вартасці ўзнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы”, у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy”
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok
tel. 435-022

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

**Арганізатары**

# Абражаны Шарль Перо

[1 ☞ працяг]



*Уршуля Тарасэвіч з Гарадка.*

маніст і задаў тон. Залай ускалыхнуў адзіны, магутны, ад шчырага сэрца спеў: *Ці помніш, Стэфка, той стары самотны млын...*

Былі яшчэ і скетчы пра тое, што ўсе перажылі за пяць супольных дзён у Нарве, песні і танцы, жарты і смех, добрая гульня. Вечарына закончылася зусім сур'ёзным фрагментам тэкста Сяргея Дубаўца „Тут”: *Ты нарадзіўся тут, значыцца ты — тутэйшы, таму тут і жывí. Калі б ты нарадзіўся ў Афрыцы, дык штодня еў бы бананы, а калі б у Літве — гаварыў бы па-літоўску, а калі б у Японіі — даўно меў бы недарагі відзік альбо камп'ютэр. Але ты нарадзіўся тут. (...) Ты ведаеш, што ў Афрыцы жывуць дзікуны, у Літве — нацыяналісты, а ў Японіі — імперыялісты... Ты ведаеш, што ты не такі як яны і ў гэтым твой гонар. А хто ты сам — неістотна.*

Мне здаецца, што пастаянныя ўдзельнікі зорчыных „Сустрэч” такія сумненні ўжо вырашылі і добра ведаюць — хто яны. Цяпер могуць вучыцца, гуляць, смяяцца з сябе і нашых малых правінцыйных *святасцей*.

А я, для якога самадзейны тэатр уяўляўся бясконцым паўтараннем „Паўлінкі” і „Мікітавага лапця”, зразумеў жыццёвую жарсць нашага найбольш заядлага тэатрала — Янкі Морданя. Практычна, усюды можна зрабіць добры, цікавы тэатр. Трэба толькі інтэлігентных, адкрытых на свет, надзеленых гумарам і фантазіяй людзей. Такіх, як збірае на сваіх „Сустрэчах” Ганна Кандрацюк.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Сцяпана Копу ўмела заступаў Дарафей Фіёнік.*

# Менш злачынстваў — жорсткасці больш

[1 ☞ працяг]

у справах, якія *ўфармоўваюць грамадскую ўвагу пра працу самой паліцыі*. Былі таксама і няўдачы. У лік поспехаў намеснік каменданта ўлічыў, між іншым, выяўленне віноўнікаў рабунку валютнай канторы ў Ломжы. У час грабяжу злачынцы адну асобу застрэлілі, а іншую цяжка паранілі (засталася яна калекай). Самай вялікай няўдачай намеснік каменданта палічыў справу забойства пісьманосца ў Лявіцкіх. Віноўнікі да гэтага часу не выяўлены, хаця, як адзначыў начальнік крымінальнага аддзялення, паліцыя мае абшырную аперацыйную інфармацыю ў гэтай справе. Не заўсёды, аднак, інфармацыю такую можна пераўтварыць у якасць судовага доказу. Справы такія — самага цяжкага характару, дадаў яшчэ начальнік крымінальнага аддзялення, ніколі ў нас не спыняюцца.



*1995 г. Аўтамашына Honda пасля ўзрыву падложанай у ёй бомбы. Віноўнік не быў выяўлены, але ў выніку дзеяння паліцыі пры гэтай справе арыштаваны быў гандляр узрыўнымі рэчывамі.*

Геаграфія злачынстваў у 1996 г. выглядае наступным чынам — даныя датычаць крымінальных злачынстваў (накіраваных супраць жыцця і здароўя ды злачынстваў супраць маёмасці); лічбы, якія прыводзяцца, акругленыя:

| Камендатура | горад | горад і раён |
|---|---|---|
| Беласток | 8 300 | 10 600 |
| Бельск | 670 | 1 510 |
| Гайнаўка | 690 | 960 |
| Саколка | 570 | 1020 |

**Некаторыя камісарыяты беластоцкай Раённай камендатуры:**

| | |
|---|---|
| гарадскі I | 2 000 |
| гарадскі II | 1 790 |
| гарадскі III | 1 720 |
| гарадскі IV | 1 370 |
| Монькі | 232 |
| Сямятычы | 427 |
| Дуброва-Беластоцкая | 158 |
| Лапы | 367 |

Паводле прыведзеных даных абсалютнае *лідэрства* ў злачыннасці належыць гораду Беластоку, у якім лік зарэгістраваных крымінальных злачынстваў у абсягу аднаго гарадскога камісарыята перавышае ў некалькі разоў лік злачынстваў выяўленых у любой небеластоцкай камендатуры.

Гэтак гаворыць статыстыка. Адна статыстыка жыцця аднак не адлюстроўвае. Паводле К. Каспшака — прэсавага прадстаўніка Ваяводскай камендатуры, шмат асоб не заяўляе паліцыі пра злачынствы. Ідзе тут пра злачынствы, у якіх учыненая матэрыяльная шкода невялікая. Мяняюцца таксама законы, паводле якіх прадзіцца кваліфікаванасць шкодных учынкаў. І хаця змены гэтых законаў уплыву на факт злачыннасці не маюць, то некаторыя віды ўчынкаў у злачынную статыстыку папросту не трапляюць.

На пытанне пра слушнасць грамадскага адчування, нібыта пры гэтай сістэме самая высокая злачыннасць, прэсавы прадстаўнік адказаў, што ад пару гадоў хваля гэтай злачыннасці паспяхова паўстрымліваецца паліцыяй. Мяняецца аднак пры гэтым характар злачынстваў. Узмацняецца іх жорсткасць. Штораз часцей злачынцамі прымяняецца агнястрэльная зброя, а ў разрахунках паміж арганізаванымі групамі — узрыўчатка.

**Аляксандр Максімюк**

# Кінаперасоўка

## або Прывабнасць X Музы

**Гутарка з Уладзімірам ГРЫГАРУКОМ з Дубіч-Царкоўных, у 1966-1979 гадах кіраўніком мясцовага кінатэатра „Прамень".**

***— У сямідзесятых гадах у вёсках вялікай папулярнасцю карысталася кінаперасоўка. I хаця тады пачалі з'яўляцца першыя чорна-белыя тэлевізары, аднак каляровыя карціны на вялікім экране выклікалі ашаламляльнае ўражанне...***

— Так, людзі захапляліся кінакарцінамі. Ездзілі мы па вёсках, дэманстравалі кінафільмы ў невялічкіх школьных залах, якія былі да апошняга месца набіты гледачамі. Тэлевізараў тады амаль не было. Толькі ў Дубічах-Царкоўных Гмінная рада купіла першы ў ваколіцы тэлевізар.

***— А як вы сталі кінамеханікам?***

— Калі ў Дубічах адкрылі святліцу, тады ў ёй памясцілі кіно. Старшыня Гміннай рады назначыў мяне ў 1966 годзе кіраўніком кінатэатра, які называўся „Прамень".

***— Сам памятаю, як хлапчукі ездзілі з вамі ў Вітава за памочнікаў, каб дарма паглядзець фільм. Ці вы наведвалі іншыя мясцовасці?***

— Так. Дэманстраваў я 16-міліметровыя кінастужкі на перасоўным апараце АП-14 у Арэшкаве, Палічнай, Чэхах-Арлянскіх, Рудутах, Тапарках, Карыцісках, Старым Корніне. Ездзіў я нават па-за тэрыторыю гміны. Увесь тыдзень у мяне быў заняты. I так было на працягу трынаццаці гадоў, не зважаючы ні на дождж, ні на снег. Зарабляў я тады 750 зл. у месяц.

***— Бывала, што на кінасеансах збіралася поўная зала гледачоў. Ці ваша дзейнасць давала прыбытак?***

— Ваяводскае ўпраўленне кіно ў Беластоку, мабыць, зарабляла ндрэнна, але ў мяне быў сталы аклад. З Беластока прысылалі мне па пошце копіі фільмаў і я пасля дэманстрацыі адсылаў іх назад. Таксама выручаныя грошы перасылаў я паштовым пераводам.

***— А як вы ацэньваеце ролю мастацкіх фільмаў у жыцці тадышняй вёскі?***

— Станоўча. Гэта быў вельмі атракцыйны метад знаямлення сялян з сусветнай культурай. Людзі ахвотна прыходзілі глядзець фільмы. На каляровыя карціны прыходзіла ўдвая больш наведвальнікаў. Найбольш любіцеляў прыцягвалі савецкія фільмы „Іван Грозны" і „Чапаеў". У Дубічах на сеансах было нават па 110 чалавек. Людзі аддавалі перавагу ваенным карцінам і вестэрнам.

***— Цяпер кіно баспаваротна прапала з вясковага пейзажу. Няма яго і ў 25-тысячнай Гайнаўцы. Ці прападзе яно наогул?***

— Кіно не павінна прапасці ў большых гарадах. Напэўна інакш успрымаецца кінакарціна на экране тэлевізара, а інакш на аграмадным палатнішчы. Далейшы лёс кінатэатраў залежыць ад моладзі, якая, думаю, будзе яшчэ доўга наведваць кіно для добрых кінафільмаў і большых эмоцый.

***— Ці наступнае стагоддзе не выцясніць кіно коштам спадарожнікавага тэлебачання?***

— Хіба так, бо ўжо ў саміх Дубічах маем сем спадарожнікавых антэн. Мой швагер таксама прывёз такую антэну з Нямеччыны, якая ўжо стаіць на даху майго дома.

***— Ці не жаль вам таго часу, калі на фурманцы або санях кінаперасоўка завозіла вяскоўцам радасць і эмоцыі?***

— Вядома, шкада. Я ахвотна ездзіў па вёсках. Але калі дзейнасць кінаперасоўкі спынілася, мне цяжка было адвыкнуць ад гэтай работы. Калі надыходзіў вечар, мне чагосьці бракавала, адчуваў я нейкае раздражненне, неспакой.

***— А чым вы займаецеся цяпер?***

— Працую на сваёй гаспадарцы. У мяне 12 гектараў зямлі, трактар з асноўнымі прыладамі, чатыры каровы. Дзесяты год жыву ў новым доме, які сам пабудаваў.

***— А што робіце ў вольных хвілінах?***

— Займаюся народным мастацтвам. Выконываю вянкі і дрэўцы з бярозавых галінак, прадаю іх. Апрача таго гляджу тэлевізар і відэакасеты, якіх у мяне ўдоваль, бо сын іх мне прывозіць.

***— А менавіта, як уладкаваліся вашы дзеці?***

— Дачка жыве ў Асвенціме. Сын пасля войска застаўся ў Ольштыне, ажаніўся і адкрыў пазычальню відэакасет.

***— Такім чынам захапленне кінафільмам засталося ў сям'і?***

— Так, але не ведаю дакладна як да гэтага дайшло. Калі сын выйшаў з войска, прыехаў да мяне, узяў „Малюха" і больш на ім не вярнуўся. Аўтамашыну прадаў, пазычыў яшчэ трохі грошай, накупіў касет і цяпер дае іх на пракат. Цяпер у яго некалькі тысяч відэакасет. Старыя касеты прывозіць мне. Назбіралася іх ужо са сто штук. Пазычаю іх бясплатна суседзям і знаёмым.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Славамір Кулік**

# Кніжка інжынера Рудкоўскага

У шматтомную ўжо бібліятэку няпольскіх выданняў, што апошнімі дзесяцігоддзямі паказваюцца на Беласточчыне, прыбыло яшчэ адно. Рэч, пасвойму, унікальная: „Топография дорог и памятников"*, апрацаваная інж. Барыславам Фамічом Рудкоўскім з Бельска-Падляшскага. Кніжка рэдкая па некалькіх прычынах. Першая з іх, найбольш хіба заўважальная — гэта форма: салідная, цвёрдая вокладка са штампаваным срэбрам загалоўкам. Шурпатая ў дотыку папера прыдае кніжцы прывабнасці, а крыху дзіцячыя па-форме малюнкі — арыгінальнасці.

Наступная своеасаблівасць выдання заключаецца ў тым, што друк кніжкі поўнасцю сфінансаваў Валянцін Гушч, саўласнік фірмы „Węgiel" з Бельска. Гэта унікальны ў нашай падляшска-беластоцкай рэчаіснасці выпадак. Трэцяя асаблівасць кнігі — гэта яе мова. Аўтар, якога карані сягаюць Паволжа, вырашыў перадаць чытачам змест на расійскай мове. Гэтым кніжка набыла універсальнасці, но не ў польскім, толькі ў агульнаславянскім вымярэнні.

Частка зместу кнігі вядомая ўжо чытачам „Нівы", „Беларускіх календароў" ды „Часопіса". На іх старонках інж. Рудкоўскі памяшчаў графіку цэркваў, помнікаў, карты з назвамі урочышчаў, занатоўкі пра прыроду, прасякнутыя трывогай пра яе належнае захаванне. Кожны яе элемент — дрэва, камень — прадстаўляе аўтару неацэнную каштоўнасць. Інжынер Рудкоўскі праявіў сябе таксама як добры публіцыст у ніўскіх „Запісках натураліста".

Дапоўненая непублікаванымі ніздзе матэрыяламі: планамі і рысункамі храмаў, геалагічных і жывых прыродных формаў, курганоў ды картамі кніжка прадстаўляе сабою своеасаблівы дакументальны зборнік, кніжную энцыклапедыю пра геаграфію і каштоўнасці культуры Бельшчыны. Кніжка з'яўляецца сведчаннем актыўнага жыцця чалавека, для якога Бельшчына — другая Радзіма — стала прадметам захаплення і вывучэння.

**Д. Ф.**

* інж. Рудковский Борислав Ф., *Топография Дорог и Памятников*, Брацтва Праваслаўнай Моладзі, Бельск-Падляшскі 1996, сс. 81.

# Лёс чалавека

Іван Грыгарук нарадзіўся ў 1919 годзе ў гарадку Уткуль каля Барнаула ў Сібіры. Там менавіта апынуліся ягоныя бацькі Якаў і Ганна ў выніку бежанства ўглыб Расеі. Не памятае ён вяртання ў родную Трасцянку, дзе іхнюю сям'ю чакала спаленая ды зарослая пустазеллем і маладняком гаспадарка. Але ўжо запомнілася яму жыццё ў зямлянцы, голад і холад, якія спадарожнічалі першым гадам пасля вяртання.

Былі ў Івана два браты і сястра Лідзія. Старэйшы брат Валодзя ажаніўся ўжо на бацькаўшчыне, але нядоўга прыйшлося яму цешыцца жыццём. На ўласным панадворку забароў яго бычок, якога ён даглядаў. Пакінуў ён жонку з двумя маленькімі дачушкамі. Сястра выйшла замуж, але ейны муж загінуў пры саветах. Іванавым бацькам і яму самому прыйшлося дапамагаць і сястрынай сям'і, бо і там асталося трое маленькіх дзетак.

У 1932 годзе Іван Грыгарук стаў членам маладзёжнай дружыны добраахвотнай пажарнай каманды. Актыўным пажарнікам застаўся ён да сённяшняга дня, а шмат гадоў быў старшынёю пажарнай каманды ў Трасцянцы.

У 1940 годзе прызвалі Івана Грыгарука ў Чырвоную Армію. Для адбыцця вайсковай службы накіравалі яго ў Карэла-фінскую ССР. Служыў ён у ваенным гарадку Уфта каля горада Кем, што недалёка Мурманска, ля Барэнцавага мора. Пасля рэкруцкай службы накіравалі яго ў школу унтэрафіцэраў, дзе атрымаў ваеннае званне старшыны. Там захапіла яго савецкафінская вайна. Ранены, трапіў у фінскую няволю. Пасля вызвалення зноў апынуўся ў радах Чырвонай Арміі, адкуль быў дэмабілізаваны пасля заканчэння II сусветнай вайны.

Да бацькоў у родную Трасцянку вярнуўся ў лютым 1946 года. Ягоны малодшы брат Васіль ажаніўся і перабраўся жыць у Беласток. Там працаваў на абутковай фабрыцы пры Харашчанскай вуліцы. Няма ўжо яго ў жывых. Іван адзін застаўся на бацькавай гаспадарцы і ў 1948 годзе ажаніўся. Было ў яго трое дзяцей, якія разышліся па краіне, жывуць у гарадах, маюць свае сем'і.

У 1949 годзе каля Трасцянкі заснавалася цагельня, а Іван стаў яе першым кіраўніком. Узначальваў ён гэты завод шэсць гадоў. Скінулі яго з пасады і выдварылі з ПАРП, калі выявілася, што сястрын сын Міхал Плошчук, які быў прызваны ў войска, трапіў у штрафны батальён і працаваў у шахтах. Іван абвяргнуў недарэчныя абвінавачанні і Міхала перанеслі ў пагранічныя часці, дзе і закончыў ваенную службу.

Іван Грыгарук як ветэран у 1979 годзе пайшоў на пенсію, перадаўшы дзяржаве сваю гаспадарку. Узнагароджаны ён шматлікімі савецкімі ваеннымі і польскімі грамадзянскімі медалямі. Не забываюць пра былога чырвонаармейца цяперашнія расейскія ўлады — нядаўна атрымаў ён медаль з выпадку 50-годдзя заканчэння II сусветнай вайны.

У будучым годзе Іван Грыгарук будзе адзначаць 50-годдзе з дня шлюбу. Жадаю Юбіляру і ягонай жонцы Зінаідзе доўгіх і шчаслівых супольных гадоў жыцця.

**Запісаў Мікола Лук'янюк**

# Стрэчанне Гасподняе — Грамніцы

*Божа, благаславі свечы...*



У дзень свята Стрэчання Гасподняга, называнага святам Божай Маці Грамнічнай, у царкве пасвячаюцца свечкі.

Асвячоныя васковыя свечы сімвалізуюць чалавецтва, якое прыняў Сын Божы, і абазначаюць, што Ісус Хрыстос з'яўляецца сапраўдным святлом свету цераз сваю навуку, ласку і прыклад. Людзі запальвалі асвячоныя свечкі ў цяжкіх, складаных хвілінах, калі дапамагчы магло ўжо толькі ўмяшанне Божай ласкі. У час буры запаленыя свечкі ставіліся ў акне — адтуль і ўзялася назва грамніцы. Грамнічнай свечкай сяляне засцерагаліся ад граду, ейным дымам рабілі знакі крыжа на дзвярах, печы, вокнах, бэльках, каб адагнаць нячыстыя сілы і ўсялякія няшчасці.

Грамніцу запальваюць пры паміраючым чалавеку, каб яе святло — полымя Божай любові ахінула яго ў апошнюю хвіліну зямнога жыцця і павяло яго да вечнага святла.

Асвячоную, запаленую свечку прыносілі з царквы дадому і тройчы абыходзілі з ёю будынкі, а малым дзецям абсмальвалі пасма валасоў.

Няхай святло дастойна ўваскрэслага Хрыста рассее цемру нашых сэрц і розумаў!

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

**Уладзімір Саўчук**

***

Хто вінаваты? — скажыце адважна
ці гэта не блудная дарога
чаму дзявочую і чыстую справу
пакінулі слугам ля парога —
чаму над жыццём малога „заўтра"
ўсё рашаюць праваднікі
жыццё яшчэ не нарадзілася
а вы паводзіце сябе як блудная маці
якая не можа зразумець вас
але ўсё-такі хоча ведаць
хто будзе „хрышчоным бацькам"
свайго „заўтра"
каб не ставаць за міласцінай
бо сягоння
страйк.

# Мясцовы друк у наступленні

**З Кшыштофам Асташэўскім з аддзела прамоцыі і пошукаў у культуры Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, спецыялістам у справах мясцовага друку, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Калі на Беласточчыне пачалі выходзіць першыя мясцовыя газеты?***

— Можна сказаць, што ад дзевяностага года. Яшчэ крыху раней выходзіла першая мясцовая газета ў Сямятычах пад загалоўкам **„Głos Siemiatycz”**. Была гэта аднак не тыповая мясцовая газета, якую фінансуе гміна, а прафесійная прыватная газета, якую выдаваў спадар Кшыштоф Панасэвіч, уласнік кнігарні. Ён газету рабіў, але ні з кім не хацеў ні раіцца, ні прасіць у нікога датацыі. Лічыў, што гэта яго прыватная справа.

***— А наступныя газеты?***

— Ну, вядома, першыя іх нумары былі слабенькія, клееныя з машынапісу, як, напрыклад, газеты **„Co słychać w gminie”** (з Кляшчэль) ці **„Nowiny z gminy”** (з Нарвы).

***— Колькі мясцовых газет выдаецца сёння на Беласточчыне?***

— Сістэматычна выходзіць каля васемнаццаці газет.

***— А якая, на Ваша фаховае вока, найлепшая?***

— Кожная з гэтых газет блізкая майму сэрцу. Кожны рэдактар робіць яе як можа, як патрапіць. Але адной з найлепшых — і гэта прызнаюць усе — з'яўляецца **„Echo Michałowa”**, якую рэдагаваў да нядаўна Мікалай Грэсь. Выходзіць гэта газета ад снежня дзевяноста чацвёртага года. Памятаю, як мяне запрасілі на пасяджэнне Рады гміны, дзе ішла гутарка пра стварэнне мясцовай газеты, і цешуся, што тады мне ўдалося іх пераканаць, што такая газета павінна быць. Гэта ж будзе жывы кантакт з грамадскасцю. Гміна зможа перадаць інфармацыі грамадству, а насельніцтва будзе рабіць свае прапановы і ўвагі ўладам, раіў я. А сёння вось газета тыражом 600 экземпляраў разыходзіцца на працягу аднаго дня.

***— Дык чаму ў Міхалове памянялі рэдактара газеты?..***

— Крыніца канфлікту найчасцей паяўляецца тады, калі газета піша не тое, чаго хочуць улады. У **„Эху Міхалова”** заўсёды змяшчалася шмат лістоў ад чытачоў. Відаць, занадта многа было інтэрвенцыйных лістоў. Крытыкавалася праца войта. Напрыклад, войт паехаў касіць сена, калі адбываўся беларускі фэстын, да таго з удзелам прэм'ер-міністра РП, міністра замежных спраў і іншых членаў урада. Мікалай Грэсь гэта напісаў. Ну, што ж, адны бяруць пад увагу сігналы і вырашаюць праблемы разам з газетай, а іншыя абражаюцца.

***— Ва ўсім усходнім рэгіёне Беласточчыны, дзе выдаецца большасць мясцовых газет, выходзіць усяго адна дзьвюхмоўная газета — „Wiadomości Gródeckie. Haradockija Nawiny”?!***

— Усё вырашаюць выдаўцы і рэдактары. Я **„Гарадоцкія навіны”** цаню за сістэматычнасць і саліднасць. Зрэшты, так ужо бывае, што калі ў гміне ёсць цікавыя справы, дык і ў газеце тэмы будуць.

***— На працягу гэтых сямі гадоў адны газеты ўзнікалі і гаслі, як метэор, другія толькі паяўляліся...***

— Газета павінна быць партнёрам для гміны і улад. А многія хацелі проста пахваліцца: „А ў нас ёсць газета!” Некаторыя гміны проста не маюць грошай. Так было, напрыклад, у Дзядковічах, дзе газета існавала ўсяго два-тры месяцы. Не выйшла таксама ў Крынках, хаця былі спробы выдаваць газету **„U źródeł Krynki”**.

***— А там жа Сакрат Яновіч?!***

— Не ведаю чаму, але Яновіч не напісаў туды ніводнага артыкула, хаця звяртаўся да яго Станіслаў Кавэйша, дырэктар дома культуры ў Крынках. Нерэгулярна і на слабым тэхнічным узроўні выходзяць таксама ў Нарве **„Nowiny z gminy”**.

***— А здавалася б, што гміна не такая ўжо і бедная, ды і патэнцыяльныя спонсары ёсць на месцы...***

— Але хачу вам сказаць, што ёсць людзі, на якіх можна разлічваць. Веру, напрыклад, што пакуль у Кляшчэлях рэдагуе газету Марыя Клімовіч, дырэктар дома культуры, газета будзе існаваць. Або вось другі ўжо год выходзіць цікавае выданне **„Nad Narewką”**. Гэта двухмесячнік. Спачатку рэдагаваў яго Янка Целушэцкі, а цяпер рэдагуе Ядвіга Карпюк, настаўніца польскай мовы. У Саколцы галоўным рэдактарам з'яўляецца спадарыня Лілля Панасэвіч, якая закончыла журналістыку. Праўда, там **„Gazetę Sokólską”** давялося перайменаваць на **„Gazetę Sokólską Nową”**, каб не паўтараць даваенны загаловак (жылі яшчэ старыя рэдактары). Ну, а газету з **„Z Zabłudowskiej Ziemi”** рэдагуе наогул пісьменнік — Ян Леанчук.



***— Як вынікае з нашай размовы, усё ж журналістаў па прафесіі ў мясцовых газетах яшчэ мала...***

— Гледзячы на іншую газету, якая паяўляецца ад часу да часу, нерэгулярна, невядома нават, ці гэта прэса. На шчасце, у Тарнове было створана **Польскае аб'яднанне мясцовага друку**. Тут адбываюцца кантакты рэдактараў мясцовых газет з цэлай Польшчы. Раз у месяц праходзяць бясплатныя трохдзённыя курсы. Курсанты плацяць толькі за дарогу. Выходзіць нават штомесячнік **„Redaktor”** — орган гэтага аб'яднання. Будучы членам праўлення аб'яднання, я запрапанаваў стварэнне і ў нас Беластоцкага цэнтра мясцовага друку, а маю прапанову падтрымаў тагачасны дырэктар ВААК Казімеж Дэркоўскі. Вось ужо два гады адбываюцца двухтыднёвыя так званыя „варштаты”, ці проста заняткі для рэдактараў мясцовых газет. Мы запрашаем спецыялістаў з нашай Філіі Варшаўскага універсітэта і з Варшавы, вопытных журналістаў. Хто хоча — прыязджае і вучыцца. Я, напрыклад, вяду там заняткі па тэхнічным баку стварэння газеты: макетаванне, выкарыстоўванне здымкаў, вучу, як абслугоўваць камп'ютэр, даю парады па прэсавых законах. Янка Целушэцкі, які ўжо не першы год у журналістыцы, а ад верасня мінулага года рэдагуе **„Gazetę Hajnowską”**, не сароміцца, прыязджае і вучыцца пісаць на камп'ютэры.

***— Вы бралі ўдзел у стварэнні многіх газет — у Крынках, Міхалове, Харошчы, Васількове („Gazeta Wasilkowska”), дапамагалі змяніць мастацкае аблічча газеты ў Кляшчэлях. Цяпер, ад лістапада мінулага года, Вы з'яўляецеся рэдактарам газеты „Rozmaitości” ў Чорнай-Беластоцкай. Праўда, назва такая здаецца Вам больш бяспечнай, бо, не дай Божа, яшчэ выйшлі б „Чорныя навіны”?***

— Гэта таксама, але такая назва газеты ўжо была да майго прыходу. „Чорных” вёсак у Польшчы поўна.

***— Ваша газета выглядае „экстра” з тэхнічнага боку, цудоўныя тут здымкі, разнастайны тэкст. Бачу і каталіцкую старонку, але не бачу праваслаўнай.***

— Я яшчэ ў лістападзе мінулага года сказаў у праваслаўнай парафіі, што магу змяшчаць іх весткі, так як і весткі з каталіцкай старонкі, але — як дагэтуль — ніякага водгуку не было. А шкада, бо гэта ўзбагачала б нашу газету.

***— Нам шкада тым больш. А за размову сардэчна дзякуем.***

*Гутарыла і фатаграфавала*

**Ада Чачуга**

# Радзіма-Родзіна

**Частка LXVI**

Фрагменты выказванняў незнаёмага студэнта, якія прыводжу сёння, бадай што найбольш мяне ўзбударажылі. Аднак кіруючыся прынцыпам неабходнасці друку, як таго, што мне падабаецца, так і таго, што мне зусім чужое, прыводжу гэтыя выказванні без якіхнебудзь правак:

„Вы, як і аграмадная большасць старэйшых людзей, загледжаны ў стэрэатыпы, у тое, што было, а не ў тое, што ёсць і што будзе ў будучым. Вы, напэўна, не ведаеце аб тым, што ёсць нямала такіх маладых людзей, якія адносяцца з вялікім супрацівам да вашых трактовак былой вайны. Вы ўвесь час глядзіце на яе праз прызму гераічнага змагання славянскіх народаў супраць гітлераўскай Германіі. Такая ідэя выступіла, між іншымі і ў вашых артыкулах аб задзіночанай Германіі, якія вы калісьці публікавалі ў „Ніве”. Вы, мабыць, не ведаеце аб тым, што многія маладыя людзі гавораць сёння нешта зусім іншае ад таго, што думаеце і гаворыце вы. І хачу вам сказаць, што многія маладыя гавораць, што яны ўжо не хочуць слухаць гутарак аб мінулай вайне. Прамінула амаль пяцьдзесят гадоў ад вайны і маладыя ўжо не хочуць аб ёй ані гаварыць, ані слухаць. Таксама, мабыць, як вы мала думаеце і мала гаворыце аб першай сусветнай вайне. Гэта па-першае, а па-другое, то многія маладыя гавораць прыблізна так: „Так, сапраўды была вайна. Ну і што ў гэтым дзіўнага? Народы ваявалі на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Пара ўжо забываць аб апошняй вайне”. А ёсць і такія, якія гавораць і нешта больш крайняе. І я вам скажу, што яны гавораць. Кажуць яны вось што: „Калі б нашы адсталыя народы і краіны ў 1939 годзе і ў 1941 годзе не супрацьстаўляліся гітлераўскай Германіі, а толькі ёй падаліся, то, па-першае, у нашых краінах не было б знішчэнняў, і не было б ніякіх ахвяраў, а падругое, то нашы краіны падпаўшы пад уплывы Германіі скарысталі б з нямецкага гаспадарчага парадку і з нямецкага псіхалагічнага ладу і сёння былі б квітнеючымі еўрапейскімі народамі”.

Ну, я не гавару, што асабіста поўнасцю падзяляю такія погляды і такія тэзы, але я ведаю, што яны ёсць як грамадская і палітычная з'ява. Але мне здаецца, што вы і ўсё ваша пакаленне не ведаеце і не падазраваеце, што і такія погляды выступаюць сярод часткі моладзі.

Дык вы, пан Баршчэўскі, падумайце самі, ці ў такой сітуацыі могуць мець які-небудзь шанс вашы тэзы аб роднай старонцы, аб Беларусі, аб радзіме ў вузкіх нацыянальных межах, са сваёй роднай мовай, з роднай нацыянальнай свядомасцю, з гарачай прывязанасцю толькі да традыцыйнага роднага і свойскага? Такое разуменне Радзімы ідзе ў разрэз з усім складам і логікай сучаснага мыслення моладзі. А апрача гэтага, то я бачу ў вашых поглядах вялікую супярэчлівасць. Я ўжо даўно быў калісьці на вашым дакладзе, калі вы вельмі пазітыўна гаварылі пра беларускую эміграцыю на Захадзе, а пры гэтым вельмі часта вельмі адмоўна гаворыце пра гітлераўскую Германію. Ці вы не бачыце ў гэтым супярэчлівасці? Вы ж ведаеце, што амаль усе тыя, хто стаўся эмігрантамі пасля другой сусветнай вайны, у час акупацыі супрацоўнічалі з гітлераўскай Германіяй. Ну дык як гэта так можа быць, што адно хваліце, а другое ганіце? У такой паставе няма ніякай логікі. Вы думаеце, што моладзь не заўважыць такой супярэчлівасці? Вы ж самі запярэчваеце сабе і аслабляеце поўнасцю сваю аргументацыю.

Зрэшты, сёння ўжо няма сэнсу гаварыць пра вайну. Вам, старым, надаела вайна, а нам, маладым надаелі гутаркі пра яе. А што датычыць радзімы, то я асабіста, як і большасць маіх сяброў, перакрочыў ужо даўно ўсякія нацыянальныя межы і бачу радзіму ва ўсёй Еўропе, а нават ва ўсім свеце. Такі мой погляд на гэту справу, пане Баршчэўскі”.

**Алесь БАРСКІ**

## Аб'ява

Студэнта, які ехаў разам з Алесем Барскім аўтобусам з Беластока ў Ялоўку, прашу адазвацца і асабіста пацвердзіць свой погляд, што ўсё, што робяць хлопцы з БАСу ў студэнцкім асяроддзі „было (ёсць? — МК) камраметуючае”. Было б найлепш, каб зрабіў гэта асабіста студэнт, а не А. Барскі, у рэдакцыі „Нівы” пры вуліцы Заменгафа, 27 у Беластоку.

**Міхась Куптэль**

# Позірк у мінулае

**23 лютага**

302 г. — рымскі імператар Дыяклетыян аб'явіў першы ўказ супраць хрысціян. Народжаны ў 245 г. у Далмацыі, стаў на службу ў рымскай арміі. Калі ў 284 г. памёр імператар Нумерый, новым імператарам войска аб'явіла Дыяклетыяна. Новы ўладар энергічна ўзяўся за дзяржаўную дзейнасць. Правёў адміністрацыйную рэформу імперыі, падзяліўшы яе на 101 правінцыю, якія ў сваю чаргу былі згуртаваны ў 12 дыяцэзій. Апрача гэтага, уся дзяржава была раздзелена на чатыры тэтрархіі. Цэнтр дзяржавы быў выведзены з Рыма ў чатыры цэнтры тэтрархій: Мілан, Нікамідзію, Трыр (той самы Трыр, у якім у 1818 г. нарадзіўся Карл Маркс) і Сірміум (сённяшняя Срэмска-Мітравіца над Савай у Ваяводзіне). Дыяклетыян асабліва адзначыўся ў рэлігійнай дзейнасці, прыдаючы сваёй уладзе сакральны характар, атаясамліваючыся з Юпітэрам і вымагаючы ад падуладных абагаўлення сваёй асобы. У 297 г. выдаў указ супраць прыввяржэнцаў маніхейства, падазраваючы іх у сімпатыях да Персіі. У 302—303 гг. выдаў чатыры ўказы супраць хрысціян. Першы прыказваў разбурыць храмы, канфіскаваць і знішчыць літургічныя кнігі і посуд ды забараняў збірацца вернікам. Другі загадваў зняволіць духавенства. Трэці ўводзіў прымяненне жорсткіх мук супраць тых хрысціян, якія не адракуцца сваёй веры. Чацвёрты ўводзіў смяротнае пакаранне тых, хто б адмовіўся прыносіць ахвяры імперскім боствам. Тэрор, асабліва паныры напачатку, дожыўся дзесяць гадоў і паглынуў многія тысячы смяротных ахвяр. У 305 г. Дыяклетыян адказаўся ад улады і пасяліўся ў Салоніі (сённяшні Спліт у Харватыі), дзе заняўся вырошчваннем агародніны. Дзяржава пахіснулася. Да экс-імператара прыбыў яго прыяцель Максімін і стаў намаўляць, каб той вярнуўся да дзяржаўных спраў.

— Мой дарагі, — адказаў яму Дыяклетыян, — ты ўважна прыглянься на створанае маімі рукамі: спярша на дзяржаву, а пасля вунь на тую капусту...

**26 лютага**

276 г. — памёр Мані, заснавальнік маніхейскай рэлігіі. Народжаны ў 215 г. у каралеўскім родзе, стварыў навуку, у якой старапёрсідскія вераванні зліліся з хрысціянскімі, будыйскімі і гнастычнымі. Асновай яго навукі стаў тэзіс пра адвечную барацьбу дабра і зла. Паводле Мані, у сусвеце існуюць царства святла і царства цемры, духовыя і матэрыяльныя пачаткі, душа і цела чалавека. У царстве святла пануе Бог з анёламі, а ў царстве цемры — чэрці. Святло адпавядае дабру, а цемра злу. У кожнага чалавека душа з'яўляецца крыніцай добрага і светлага, а цела — цёмнага і злога. Душа мучыцца ў цялеснай цемры. Безупынная барацьба дабра і зла складае змест сусветнай гісторыі; яна завершыцца касмічнай катастрофай — пажарам, падчас якога матэрыя прагарыць у агні, а дух вызваліцца. У гэтай барацьбе чалавек павінен спрыяць дабру, духовым пачаткам, а не цялесным. Адсюль маніхейскае прадпісанне аскетызму, бязжэнства і адказу ад спажывання мяса, рыбы, віна, малака. Забаранялася забіваць жывыя стварэнні, хлусіць, красці і мець прыватную ўласнасць. Упершыню Мані аб'явіў сваю навуку ў 242 г. падчас каранацыі шаха Шапура I. Выклікала гэта рэзкі пратэст зараастрыйскіх жрацоў, з-за якога Мані вымушаны быў уцякаць за мяжу. Пасля вяртання абвінавацілі яны яго ў ерасі, а затым дабіліся смяротнага прысуду. **(Ш)**

# *Парнасік*

### Кажуць быў

Кажуць, быў ён камуніст,
Сышчыкам з'яўляўся.
Цяпер усяму пярэчыць,
У нічым не прызнаўся.
Затуманьваў ён людзей,
Рабіў калатушку,
Аж пакуль сам не узлез
На ўладну вярхушку.
На трыбуне пасядзеў,
Вучоным астаўся,
Хаця ў белым і чырвоным
Сам не разбіраўся.

**Мікалай Лук'янюк**

### Як заўсёды

Дзень прайшоў,
як штодзень.
Нічога асаблівага
не здарылася.
Усе здаровыя і паціху
мараць аб шчасці.
Веяў халодны вецер.
Падаў густы снег.
Засвяціла сонца,
прыцiснуў мароз.
Прыйшоў вечар.
Усе пільна глядзім
у шкляны экран.
Жывем па-зімоваму.
Штодзень бліжэй вясны.

**Аўрора**

### Дождж

Падае дождж,
Часты ён госць.
Так мы мяркуем
І часта зазлуем.
Чакаем пагоды
І добрай пароды,
Каб ураджай нам сустрэць
І добра ўсё мець.
Але каб ураджай мець,
Нельга духоўна хварэць.
Бо, каб не з неба вада,
Была б нам крышка, бяда.
Цяжка нам дагадзіць,
Мірна, спакойна ўсім жыць.
Тады будзе згода,
Плён і пагода.
Пасля дажджу сонейка засвеціць,
У працы, турбоце дзень праляціць.

**Мікалай Панфілюк**

# Папраўка

У тэксце Юрыя Трачука „Яшчэ адна сардэчная падзяка" („Ніва" № 34 ад 25 жніўня 1996 г., стар. 11) была дапушчана памылка, у выніку якой адзін са сказаў набыў адваротны сэнс. Сказ гэты павінен гучаць: „Спадзяюся, што на гэты раз ніўскі камп'ютэр яго прапусціць!"

Перапрашаем аўтара і чытачоў.

**Рэдакцыя**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 696. Вера Паўлюк (Эльбланг) | 24,00 зл. |
| 4 697. Сакрат Яновіч (Крынкі) | 12,00 зл. |
| 4 698. Уладзімір Куршаль (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 699. Георгій Валкавыцкі (Беласток) | 8,00 зл. |
| 4 700. Аркадзь Самойлюк (Беласток) | 24,00 зл. |
| 4 701. Марыя Леанчук (Беласток) | 20,00 зл. |
| 4 702. Міхал Вішанка (Мікулічы) | 20,00 зл. |
| 4 703. Сцяпан Андрасюк (Гайнаўка) | 12,00 зл. |
| 4 704. Ян Ляшчук (Гайнаўка) | 6,00 зл. |
| 4 705. Іаланта Вішнеўская (Гайнаўка) | 6,00 зл. |
| 4 706. Галіна Маліш (Гайнаўка) | 6,00 зл. |
| 4 707. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 708. Ян Карпюк (Забагонне) | 6,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, мне прысніўся вельмі дзіўны сон. Быццам бы ўлез я на нейкую вежу. Гляджу, а там у адным месцы многа маленькіх сабачак. Яны абыякавыя ў адносінах да мяне. Не гаўкаюць, не кусаюцца, але і не лашчацца.

А ў другім месцы неспадзявана заўважаю некалькі маладых катоў, а сярод іх — адзін ужо вялікі, дарослы.

Што гэтыя сны могуць абазначаць?

**Мірон**

А мне, Астроне, сніліся дзве нябожчыцы. Адна — мая сястра, а другая — бабка. Ну, сядзелі яны ў нейкай незнаёмай хаце, але гэта было быццам у мяне. Сястра перабірала, складвала нейкую вопратку, а бабка мыла бялізну ў драўлянай балеі.

Раніцай прыйшла суседка і сказала мне, што памерла наша супольная добрая знаёмая. Скажы, Астроне, ці сон мо прысніўся на гэту смерць?

**Агата**

Мірон! Ты ў жыцці, відаць, узлез даволі высока і з гэтай вышыні спаглядаеш на жыццё. А ў жыцці, яно па-рознаму бывае: маеш дзе сяброў, дзе ворагаў. Чым вышэй чалавек ускараскаўся, тым больш адных і другіх, і аб гэтым варта памятаць.

Што датычыць тваіх сабачак, дык яны ў гэтым выпадку абазначаюць абыякавых табе людзей. Калі б лашчыліся — абазначалі б адданых, верных прыяцеляў, а калі б нападалі — люта-га ворага.

Наконт катоў — справа горшая. Маладыя ці старыя — усе яны гавораць аб тым, што ёсць у цябе хітрыя і прадажныя сябры. Сцеражыся іх больш, чым ворагаў!

А ты, Агата, свой сон сама разгадала. Бабка мыла бялізну — вось нехта і змыўся. Да таго ж сніліся табе ўсё нябожчыкі.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. гарызантальнае перакрыццё судна, 7. прозвішча папы Іаана XXIII, 8. гума, 9. сыравіна на пражу, вату, 10. без вакон, без дзвярэй, поўна хата людзей, 14. амплітуда, 18. горад над Віліяй, 19. армія, 20. круты і высокі скок верхавога каня, 21. дзіцяня свінні.

**Вертыкальна:** 1. займаецца гравіроўкай, 2. вызначэнне саставу і ўласцівасцей рэчыва, 3. праваслаўная святыня, 4. булка, пераважна з начынкай, 5. аптычны электронны генератар, 6. сямейства моў, на якіх гавораць у Цэнтральнай і Паўднёвай Афрыцы, 11. малое арла, 12. возера ў Азіі, 13. барацьбіт, 15. аснова, 16. прызначаная на нешта прастора, 17. вадзяны вал. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 1:**

**Гарызантальна:** залп, масла, Елісей, Луўр, дзюба, Адысей, інфекцыя, Аліна, Ігналіна, Браніцкі, Ітака, рыторыка, сарока, атара, ліфт, Малаві, валун, ягня.

**Вертыкальна:** падзел, Жлобін, амулецік, перац, Сірыя, Мележ, аналітык, дынаміка, арба, Ірак, Ліма, шафа, гідрафон, Татван, Корбут, чабан, рокат, талія.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

**Міні-даведнік**

**Ранкалі** — біскуп Рыма ў 1958—1963 гг.




**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

# Пародыі

## Міра з планеты Плутон

*Іскрыцца маё цела...*

*Міра Лукша*

Навошта мне, зямляне і беластачане,
Заснежаны Мінск і адліга ў Варшаве.
Маю „Замову" пяюць іншапланецяне,
А я на Плутоне купаюся ў славе.
Я нават целам да вас непадобная,
Яно іскрыцца, бы вострыш касу.
А вы, зямляне, як кветкі, кволыя,
Ці да Плутона я вас давязу?
Вазьму Міpановіча, Чыквіна, Шведа,
І Тарасэвіча з сабой захаплю...
Мы палецім вельмі хутка, бясследна,
І назаўсёды пакінем Зямлю.
Там, на Плутоне, Чыквін са Шведам
Будуць шэдэўры пісаць за мяне.
Ну, а я іх, вядома, за гэта
Буду ласкаць у начным тумане.
А Міpановіч плутонскую „Ніву"
Будзе для ўсіх плутанян выдаваць,
Стане Лявон Тарасэвіч шчаслівым,
Калі для нас ён пачне маляваць...
Эх, зажывем там, і пры нагодзе
Вырасцім Райскія цуда-сады...
Пройдуць гады і нават стагоддзі,
Зробім Плутон беларускім тады!

**Сяргей Чыгрын**

*Малюнак А. Пучканёва*



## Думкі ўслых

Беларусу наканавана быць беларусам, нават каб ён не хацеў ім быць, бо — добра ці дрэнна — ён нарадзіўся гэтакім, з'явіўся на свет Божы, і куды б ён ні пайшоў, да каго б ні прыставаў, да якой мовы ці культуры ні далучаўся б, ён усё роўна па прыродзе сваёй будзе заставацца — можа нават не ўсведамляючы гэтага — беларусам, а галоўнае — яго гэтакім будуць лічыць, не зважаючы на ўсе высілкі прыстасавацца. Выхаду тут іншага няма, як толькі застацца тым, кім ты нарадзіўся.

**Масей Сяднёў**
*(Полымя, № 12/1996)*



*Малюнак С. Капылова*

У кіпцюрах цацэрука

## Перападлік

### пасля спірытычнага сеанса

Цукар узмацняе, а выклікáнне духаў падымае асабістую гігіену. Пабыўшы на такім вось спірытычным сеансе („Ніва", н-р 4, с. 10), пайшоў я размарожваць септык (шамба). Пасля аднае і другое работы і так ужо трэба дакладна памыцца, падумаў я, дык няхай будзе за адным махам.

Праца пайшла паспяхова.

Падмацаваўшы ў ваннай фізічную і псіхічную форму, узяўся я за пяро. Узяўся і стрымаўся. Неўміручы Савецкі Дух (каб не забіраць замнога месца і не псаваць зроку Шаноўнаму Чытачу буду карыстацца абрэвіятурай НСД) не зразумее маіх слоў, а калі б і зразумеў — не паверыць ім. Прызнаюся: не закончыў я ніякіх літаратурных, ні палітычных курсаў у Маскве і медалямі не ўзнагароджаны. Бог Усявышні таксама экзаменаў у Маскве не здаваў, дык НСД колькі ж гадоў абвяшчаў, што Яго ўвогуле няма. Што НСД рабіў у царкве — цяжка здагадацца.

Дзякуючы спірытычным сеансам, пачынаю сумнявацца ці я — беларус. Паводле НСД можаце быць беларусамі, украінцамі, літоўцамі і кім яшчэ захочаце. Для гэтага трэба толькі ведаць рускую мову, культуру, традыцыю, увогуле хіба трэ быць рускім чалавекам.

Не акончыўшы маскоўскіх курсаў, не знаходжу я ў сабе смеласці для дыскусіі з НСД. Аддаю тады голас разумнейшым: Гжэшчыку і Чэхаву. Аказваецца — рускі з палякам за нашымі плячыма могуць гутарыць цалкам прыемна. Паслухайце толькі, што яны гавораць:

— Слабая памяць — гэта доказ слабое волі.

— Так. Чамусьці аднак найспраўнейшыя мемуары пішуць тыя, у якіх памяць якраз слабая.

— А некаторыя рубаюць проста з моста толькі тады, калі ўжо пераступяць раку.

— Адукацыя не заўжды суправаджаецца добрым выхаваннем.

— Вядома. Школа і клас — гэта дзве розныя справы.

— І па гэтай прычыне кожнае абвінавачанне павінна быць фармуляванае магчыма дакладна. Інакш гэта не абвінавачанне, а абгаворванне не падыходзіць прыстойным людзям.

— На ўсё ёсць толькі адзін спосаб. Час.

Філосафы гутараць далей, а я цешуся на гэтыя бардэлі, што энергічным НАТОўскім крокам набліжаюцца да Беластока. Я яшчэ паспею, а НСД няхай сабе толькі памроіць.

**Міхась Андрасюк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сустракаюцца два сябры:

— Адкуль у цябе такі гуз на ілбе?

— Набіў яго мне раўнівы муж, бо я прытуляў ягоную жонку пасля шлюбу.

— Як гэта так; у нас жа заведзены такі звычай...

— Так, толькі не два гады пасля шлюбу.

* * *

Жонка вярнулася з адпачынку.

— Ці была ты мне вернай? — дапытваецца муж.

— Таксама як і ты мне.

— Ну, мая дарагая, апошні раз ты туды ездзіла!

* * *

— Хутка! Хавайся ў шафу, бо чую, што муж вяртаецца.

— Ці я там не задушуся?

— Уваходзь! Дагэтуль яшчэ ніхто не задушыўся.

* * *

— Папярэджваю цябе, што калі надалей будзеш праводзіць цэлыя ночы на ігры ў брыдж, знайду сабе каханка, — пагражае жонка мужу.

— Добра; толькі глядзі, каб не быў гэта хто з маіх партнёраў.

* * *

У варожкі:

— Карты гавораць, што муж вам здраджвае.

— Няўжо?! Праверце, ці не паклалі вы іх наадварот.

* * *

— Дзе ты быў і што рабіў так позна ноччу па-за домам? — пытае мужа жонка кітайскага філосафа.

— Мудрая жонка ніколі не пытае свайго саноўнага мужа, дзе ён быў і што рабіў, — адказаў філосаф.

— А ці мудры муж можа спытаць жонку, што яна рабіла?

— Мудры мужчына не мае жонкі.

* * *

Падчас балю жанчына моцна прытулялася да пазнанага нядаўна мужчыны:

— Мой муж, — шэпча яму, — выехаў на двухгадовы кантракт у Афрыку.

— Гэта цудоўна, — шэпча ён. — Ці магу атрымаць маркі ад ягоных лістоў?

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Пра тое, што хлопцы заклаліся наконт мяне, я даведалася толькі тады, калі ўжо была ў пятым месяцы цяжарнасці. Столькі часу я жыла ў несвядомасці, мяркуючы, што дзіця, якое я нашу пад сэрцам, гэта плён вялікага кахання.

Дзівіла мяне толькі адно: ад таго нашага памятнага спаткання мінула столькі часу, а хлопец амаль не адзываўся. Прыслаў усяго адну паштоўку на свята і два разы мне пазваніў. Ага, я забылася сказаць, што ён жыве за граніцай. Але зусім не так далёка — у Гародні.

Я раней туды ездзіла часта, бо ў мяне жыве там цётка і было таксама шмат сяброў і сяброўак. Гэты хлопец мне заўсёды падабаўся. Быў прыгожы і статны. Але дзе ты да яго даб'ешся! Заўсёды вакол яго было поўна дзяўчат: мог выбіраць, якую хацеў.

Закаханая, я нават не адважылася марыць пра тое, што ён зверне ўвагу на мяне. Але было прыемна бываць з ім у кампаніі, хаця і захапляўся ён іншымі дзяўчатамі. Толькі шчымела маё сэрца, а ўначы я паціху плакала. Цётка цешылася, што я так часта прыязджаю, і я старалася быць у яе прынамсі праз месяц. А летнія канікулы амаль штогод праводзіла ў яе. Мы там хадзілі з цёткай у тэатр, разам з сябрамі і сяброўкамі ездзілі купацца на Нёман. Сустракаліся мы таксама ў дыскатэцы. Адным словам, было весела.

І раптам, калі я была ў цёткі ў кастрычніку, шчасце ўсміхнулася мне. Хлопец, які мне так падабаўся, запрасіў мяне на дыскатэку. Было цудоўна, я млела ад шчасця. А знаёмых было поўна, і ўсе бачылі, што гэты хлопец запрашае толькі мяне. Я была на сёмым небе. Шчаслівая і закаханая. Такі ж хлопец!

Даражэнькае Сэрцайка! Ці ж магла я думаць у той момант пра нейкі падман?! Ці магла падазраваць, што мой каханы хлопец гэта нікчэмнік?! Ну, і пайшла, вядома, з ім да яго сябрука на кватэру. Не думала, што апынуся з ім у пасцелі, але сталася. Божачкі, ён не даў мне ўвайсці, як накінуўся на мяне з пацалункамі. А што было далей, дык і не раскажаш.

Адным словам, я паддалася. Быў такі рамантычны настрой, назаўтра я выязджала. Не скажу, што я страціла цяпер дзявоцтва, бо быў ужо ў мяне адзін хлопец. І колькі мы з ім не сустракаліся — я ніколі не зацяжарыла. Я думала, што гэта не такая простая справа, дык нават і не баялася. А тут — прыехала неўзабаве дахаты, а менструацыі няма і няма. Я думала, што проста нешта ў мяне расклеілася, але пайшла да доктара — быў тады ўжо чацвёрты месяц. Нават калі б я і хацела нешта з гэтым фантам рабіць, дык было ўжо позна. Але навошта? Я ж думала, што мы пажэнімся.

Зараз жа вырашыла паехаць да цёткі і сустрэцца з маім хлопцам, каб паведаміць яму гэту навіну. Пісаць пра гэта не хацела. Ды і па тэлефоне такое не скажаш — ён жыў з бацькамі. Вырашыла, што пазваню яго сябру, таму, у якога мы тады былі. Ён меў паведаміць хлопцу, што я прыехала і каб скантактаваўся са мною.

Два дні прайшло — ніякага званка. Яшчэ тры дні — ні гуку. Званю ізноў яго сябру, пытаю, прашу, а ён урэшце не вытрымаў ды кажа: „Слухай, дзіця, перастань на яго разлічваць. Мы тады ўсёй кампаніяй пажартавалі, што вось, маўляў, усіх дзевак перабраў, а з чужаземкай не пераспаўся. І тады ён заклаўся з намі, што гэта зробіць. Вось і ўсё".

Я расплакалася і кажу: „Я дзіцяці чакаю". На нейкі момант хлопец замоўк, а тады кажа: „У яго дзяўчына ёсць, жаніцца збіраецца".

У мяне перасохла ў горле. Але што я магла зрабіць? Заставалася чакаць ля мора пагоды. Я пасядзела ў цёткі яшчэ пару дзён і выехала дахаты, нічога ёй не сказаўшы.

Дома вырашыла пра ўсё расказаць маме. Ад бацькі я ўцякаю, каб не заўважыў, што таўсцею. Але ж гэта ўсё і так да часу. Радзіць мне давядзецца летам, дык нічога не страчу на студыях, але як выхаваць дзіця, калі я яшчэ студэнтка, а мама працуе...

Але мама мяне пацяшае, што неяк усё ўложыцца. Кажа, што я не павінна цяпер нервавацца, бо гэта можа адбіцца на здароўі дзіцяці. Бог даў, дык трэба з гэтым пагадзіцца.

А я думаю, што мо варта паехаць з жыватом да нарачонай гэтага хлопца, то не захоча выходзіць за яго? Як ты думаеш?

**Тоська**

Тоська! Ужо некаторыя ездзілі. Рэдка калі гэта нешта дае. А калі і дасць — дык з прыкрымі эфектамі. Скажы, ці ты хочаш гэта для людзей зрабіць? Бо хлопцу цябе пасля такога візіту не толькі не пакахае, але можа зненавідзець.

**Сэрцайка**